# УЗДЫМ

**ВОРГАН БЕЛАРУСКАГА АКТЫВУ НА ВЫГНАНЬНІ**

**M. Kobiako, 4234 Mapledale Ave. Cleveland 9, Ohio**



Год II ЖНІВЕНЬ - ВЕРАСЕНЬ 1964 №6

## ПЕРАД ВЫБАРАМІ Ў АМЭРЫЦЫ

Выбарчая кампанія на прэзыдэнта Амэрыкі распачалася. Кандыдаты ад абодвых партыяў- дэмакратычнае і рэспубліканскае распачалі змаганьне за прэзыдэнскае становішча,якое паглыбляецца і пашыраецца,набірае штораз вастрэйшыя формы. Перадавыя кандыдаты абодвух партыяў больш зацікаўлены крытыкаю сваіх праціўнікаў,ды ўсправедлівеньнем скіраваных супроць іх закідаў. Кожны з кандыдатаў стараецца здабыць як найбольшую колькасьць прыхільнікаў,якія аддаліб свае галасы ў выбарах,а кожны выбаршчык згодна свайго пагляду мая права рабіць свой вывнаў за якога кандыдата галасаваць.

Не малая колькасьць і беларусаў разсялілася ўжо на прасторах амэрыканскае вольнае зямлі і значная колькасьць іх ужо набыла амэрыканскае грамадзянства,а таму павінна не адносіцца абыякова да выбараў, але добра разважыць за каго аддаць свой голас.

Ладная колькасьць беларускае моладзі ўжо выхавана ў амэрыканскіх школаю як агульнаадукацыйных,гэтак і прафэсыйных,паляпшаючы праз гэта сваё матарыяльнае становішча,і ў іх паўстае зацікаўленьне праблемамі агульна грамадзкімі ды палітычнымі партыямі.Зразумела,што гэтае зацікаўленьне паўстае яшчэ больш ў выбарчым годзе,бо беларруская грамадзкасьць ў сілу абставінаў ня можа знаходзіцца поза ўплывамі выбарчае кампаніі,каб абмяжавацца толькі праз ўдзел у выбарчых нацыянальных камітэтах і ў амэрыканскай прэсе,бо апрача гэтага важнымі справамі нашага амэрыканскага жыцьця існуюць яшчэ іншыя,шырэйшыя справы, якія належаць не толькі да штодзённых,як штодзённая праца і матарыяльнае забясьпечаньне,але і тыя прычыны, праз якія мы павінны былі пакінуць Бацькаўшчыну,налажылі на нас абавязкі,якіх ня можна выракацца.Ня можна-ж быць пасыўным,каб не распаўсюджваць праўду аб сучасным жахлівым матарыяльным становішчы ў паняволенай нашай Бацькаўшчыне,патрэбна знаходзіць да беларускае вызвольнае справы прыяцялёў і змагацца ў меру магчымасьці-супроць расейска-камуністычнага імпэрыялізму,супроць бальшавіцкае дыктатуры і палітыкі"спалучэньне нацыянальнасьцяў"ў адзін расейскі кацёл.

У выбарчым часе актывізуецца ня толькі нутраная і вонкавая палітыка дзяржавы як напр: справа падаткаў,значэньне працы,ліквідацыя безрабоцьця,сацыяльнае забясьпечаньне,мэдычная апека для старэйшых, будова новых школаў,будова і фінансаваньне новых сетак камунікацыі, але і нацыянальная. Усе гэтыя пытаньні як ў галіне грамадзкае апекі, эканомікі і культуры ды нацыянальнае пытаньне мусяць цікавіць кожнага беларуса,бо гэта ёсьць жыцьцёвыя справы.

А таму,асабліва тыя,што маюць ўжо амэрыканскае грамадзянства,павін-

ны ня толькі галасаваць,але і рабіць уплыў на амэрыканскую замежную палітыку,якую ўважаюць найсправядлівейшаю для дабра Амэрыкі і свае Бацькаўшчыны Беларусі.Мыж жывём у часе,калі інтарэсы краінаў сходзяцца і аснаўны прынцып амэрыканскага сьветапагляду "сьвет ня можа быць напалавіну вольным і напалавіну падняволеным - адносіцца гэтак сама і да нашае краіны,а ў першую чаргу гэтым самым і да на.

Дзеля гэтага беларускія выдаршчыкі ня могуць пагадзіцца з пагглядам да ўсходу Эўропы,як і да расейскага маналіту,зь якім некаторыя чыннікі імкнуцца сужыцца і супрацоўнічаць.Таму ня толькі як беларускія,але як і амэрыканскія патрыёты мы маем права і абавязак не галасаваць за тых, у праграме якіх не ўнесена аб існаваньні беларускага народу і ягонае імкненьне да волі.

Гэта не азначае,што галасуючы за тую партыю,якая ў сваёй праграме нацыянальнае пытаньне сярод падняволеных народаў ставіць на першым мейсцы,а нашыя выбаршчыкі хацеліб Амэрыку ўцягнуць у вайну ~~Амэрыку~~ супроць Расеі. Гэтага не жадае не адзін разважлівы чалавек у сьвеце. Але паміж вайною і прыстасаваньнем існуе яшчэ шмат магчымасьцяў,якія не выкарыстоўваліся не аднэю ні другою партыяй.А таму заданьнем і беларускіх выбаршчыкаў у цяперашнім перавыбарчым часе пры кожнай нагодзе павінна быць праяўлена актыўнасьць,чынны ўдзел у выбарах і зварочваньне ўвагі на тыя магчымасьці,якія не выкарыстаны адносна да паняволеных бальшавікамі нерасейскіх народаў.

==========================

## ЧАМУ МАЛА АМЭРЫКАНЦАЎ БЯРЭ ЎДЗЕЛ У ГАЛАСАВАНЬНІ ?

Галасаваньне ў Злучаных Штатах зьяўляецца аснаўным актам самаурадаваньня. Яно дае грамадзянству права выражаць свае думкі,рабіць выбар, прымаць удзел у дзейнассьці Ураду - у грамадзе,у акрузе і ўва ўсім краю. Выбарчая урна - гэта сьродак выбіраньня самым народам ураду народу,дзеля народа.

З часу заснаваньня Амэрыканскае Дзяржавы выбары ніколі не адкладаліся і не адкладваюцца.Дзень выбараў назначаецца фэдэральнай кансыстуцыяй,або кансыстуцыяй Штатаў,ці статутамі. Ні грамадзянская вайна ,ні хваробы,ні крызісы не ўстрымоўвалі выбарчы апарат.

Маючы гэтую традыцыю свабодных выбараў,і будучы аднэй з старэйшых дэмакратычных краінаў,Злучаныя Штаты маглібмець рэкардовае галасаваньне.Нажаль гэта не зусім так.

У 1960 годзе на апошніх прэзыдэнцкіх выбарах, у часе якіх праводзілася найбольш бязлітаснае змаганьне кандыдатаў,галасавала толькі 63,8 працэнтаў усіх амэрыканцаў.А два гады перад гэтым,на кангрэсовых выбарах, лік галасуючых быў яшчэ меншы,бо галасавала толькі 48,9 працэнты.

Чым-жа тлумачыцца нежаданьне галасаваць шматлікіх амэрыканцаў-больш за 35 мільёнаў не галасавала ў 1960 годзе?

Тут немагчыма абмяжавацца адным адказам.Агранічаныя юрыдычныя і адміністрацыйныя працэдуры для рэгістрацыі і галасаваньня,расавая дыскрымінацыя,асабліва на паўдні краю,незнаёмасьць з патрэбаваньнямі для выбаршчыкаў,апатыя і абыяковасьць - ёсьць галоўнымі прычынамі гэтаму,а ў дадатку думка,што адзін голас,ўсёроўна ня мае ніякага

значэньня.У Амэрыцы ніхто нікога ня можа змусіць ісьці галасаваць апрача ўласнага сумленьня самога выбарщчыка.

Няведаньне выбарчага права магчыма былоб легка папраўіць.Усе штаты патрабуюць,каб галасуючы быў грамадзянінам З.Ш.А.Век для галасаваньня -21 год, за выняткам штатаў Джорджыля і Кэнтукі,дзе век -18 гадоў,на Алясцы -19,а на Гаваях -20 гадоў. У бальшыні штатаў ад галасуючага патрабуецца каб пражыў ў выбарчай акрузе адзін год,у Міссісіпі-2 гады,а ў 12 штатах,уключаючы :Мічыган,Міннесоту і Нью-джэрсі толькі шэсьць месяцаў.

Дзеля таго,каб мець магчымасьць галасаваць,кожны павінен перад усім зарэгістравацца.У сорак васьмі штатах патрабуецца рэгістрацыя абавязковаю,зь якіх у 33-х штатах рэгістрацыя заканчваецца ў кастрычніку,у дзесяці ў верасьні,а ў некаторых другіх яшчэ раней.Калі хто не зарэгістраваўся,то першым абавязкам павінен азнаёміцца з рэгістрацыйным уставам тае акругі,або грамады дзе жыве.Аб гэтым можна давецацца праз газэту,праз бібліотэку,або праз кожную палітычную ці грамадзкую арганізацыю.Кожны год больш як дваццаць мільёнаў амэрыканцаў выбарчага ўзросту перасяляюцца ў іншыя мясьціны жыхарства.

Амаль усе яны павінны рэгістравацца нанова. У некаторых штатах замужнія жанчыны,павінны ізноў рэгістравацца ужо на імя свайго мужа.

Галасаваньне,як сказаў нядаўна прэзыдэнт Джонксон,-"гэта першы абавязак дэмакрацыі". Гэта адно з асноўных прывілеяў амэрыканскага грамадзянства".Дзеля кожнага грамадзяніна выкарыстаньне гэтае прывілеі- адзін з найбольш верных спосабаў замацаваньня,як нашага краю, гэтак і ўсяго свабоднага сьвету./Пераклад з А.С.Н.С. Амэрыкан Коўнсіл фор Нэтіоналітіэс Сэрвісе/.

---

## С Ь В Я Т Ы Я З А Ф А Т /Працяг/

На бачыне 125-126 свае кніжкі "сьв.Язафат" сп. Панцэвіч апісвае перагляд другою,спэцыяльна вызначанай Камісыяй цела Язафата піша:"адзеньне было ў многіх мясцох збутвелае,валасы пааднадалі,аднак цела трымалася моцна"...Пасьля камісіі Леў Казімер - сын Канцлера Льва Сапегі,будучы ў Гданску ў 1650 годзе замовіў сярэбраную дамавіну коштам 35.000 сярэбраных таляраў".Але цікава тут тое,што; пры адкрыцьці труны пабачыў Мітрапаліт Сілява,што вернікі шмат кускоў цела і косьцякоў забралі сабе на мошчы?/З жыцьця Иосафата кніжка бач. 269/.

І каліб усапраўднасьці так былоб,як напісана,то гэта паказвалаб ,якімі дзікунамі былі тагачасныя вернікі вуніяцкія,каб заміж захаваць дарагое ім цела,яго рвуць,зьнявечваюць і разцягваюць.А мошчыж,як рэліква і вялікая сьвятасьць павінны захоўвацца.

Але штож далей сталася з целам Язафата?
У часе войнаў 1650-1655 гг. маскоўскае войска захапіла частку Літвы /Беларусі/разам з Полацкам.Паклоннікі Язафата перавозяць цела ў нявецамае месца.Мітрапаліт Календа ў часе вайны возіць цела па ўсёй Літве заміж захаваць яго адным месцы. У 1657 г. прывёз да Супрасьля а ў 1673 ізноў прывозіць да Полацка..Пазьней пасьля сьмерці караля, калі ў Польшчы паўсталі нялады быццам цела было перададзена Карлу

Радзівілу,які павінен быў зьвярнуць цела калі будзе супакой. аднак не патрымаў слова,аддаючы Васілянам толькі труну і каштоўнасьці,а цела затрымаў. Нарэшце о. Лодіевскі-Ігумен Бельскага манастыра замураваў тайком цела у замкавом муры і ніхто не знаў дзе яно дзелася.

Аж ў 1761 годзе ізноў выстаўлена цела для пакланеньне людзей. Гэткія весткі пра цела Язафата ў кніжцы "Житте Иосафата"-украінскаг вынійнага выданьня 1902 год.

Далей Грэка-каталіцкі Эпіскап Ө. Боцян падае у часопісу "Ніва" № II-I2 за 1922 год навейшую гісторыю пра цела Язафата. Ён кажа: "Мошчы засталіся неспарахнелымі да сёньняшняга дня" І што цела Язафата спачывала ў Белай на Падляшы да 1873 г. і адтуль перавёз яго о.Паўло Демчук да Вены. Тут ізноў папская камісія аглядала яго іпрышла да выснавушшто гэта ёсьць ўсапраўднасьці мошчы Язафата.Першаю тут справаю была "кансэрвацыя" цела.Чытаем там:" Таму,што мошчы 45 гадоў лежалі ў сыром склепі,а потым двойчы выстаўляна іх пад дзеянь не сухога паветра "нетленнае" сухое цела адстала ад касьцей і праз трасеньне пры перавозі цэлымі пластамі пачало крушыцца."Мускулы на грудной клетцы трымаліся лепш як на сьпіне,каторыя зыcподу ужо больш спарахнелі.Правая рука была,левае бракавала,бо ўзята на каналізацыю.Найлепш захаваліся ногі сьвятога..."

Вельмі ўсёб было добра кажа епіскап Боцян - каліб гэтае цела ўдалося разам закансэрваваць.Нажаль было ўжо фізычна немагчыма,а таму о.Комарек мусіў аддзяліць ўсё цела ад касьцей.Някія засохшыя часткі адложаны для рэліквіяў,а косьці абвязаў палатном і шоўкам,зчапіў разам увесь касьцяк,убраў у васілянску расу і новыя рызы,зложыў у бронзавую труну і паставіў на вялікім прастоле.Пры ўбраньні цела памагаў наш Васілянін о. Иосіф жан/француз/.

Уявіўшы сабе ўсю гэтую гісторыю,аб чым піша грэка-каталіцкі Эпіскап,бачым што гэта гісторыя прыпамінае ашуканства і зьнявагу самага людзкога цела. Называюць цела "нетленным", у стане калі і кансэрвацыя не паможа,дык пaштож яго кансэрваваць калі яно разсыпаецца?

Даўнейшыяж хрысьціяны цела цела сьвятых у зямлю хавалі,а над імі цэрквы будавалі і гэта была сапраўды разумная пашана сьвятым угоднікам.А штож рабілі з целам Язафата? Яго носяць, возяць,хаваюць, ізноў выдабываюць.Календа вязе яго ніхто не ведае куды і пашто,аж пакуль не апынулася ў Супарасьлі,Адтуль вязуць ў Вільно на паказ,а потым ізноў у Полацк;перaказваюць Радзівілу, замуроўваюць ў сьцяну, ізноў дастаюць да Вены,дзе праводзяць апошнюю дзікую апэрацыю.А там, калі лічыць яго мучанікам,то хіба толькі за тое,што пасьля сьмерці над ягоным целам зьдзекаваліся.

Сьвятыяж людзі былі сьвятымі папершае сваім жыцьцём,сваімі ўчынкамі,а не целам.І памяць пра іх адносіцца да іхняга правядняга жыцьця.Шмат ёсьць сьвятых,што ня ведама,дзе іхнія цела спачываюць,але іхнія ўчынкі ведамыя і якраз па тым бачым нытленны вобраз сьвятога чалавека. Спадарзка Пануцэвіч у сваім рэлігійным засьляпленьні узяўся крытыкаваць прызнаньня сьвятасьці сапраўдным праваслаўным мучанікам,ды хвальшуючы матарыял пра Язафата,падaны гэткімі грэка-каталіцкімі рэлігійнымі чыннікамі як О.Боцян-Эпіскап, ды апісаньня ў кніжцы "Жыцця Иосафота" і іншых грэка-каталіцкіх выданьнях.

/Працяг будзе/

## ЗКЛІЎЛЕНДЗКАГА ЖЫЦЬЦЯ

На ўзьбяжэжжы возера Іры /Эрые/,аднаго з найбольшых вазёраў на паўночна-амэрыканскім кантынэнце,шырака разлеглася Кліўлендзкая Мэтраполія,якая налічвае каля двух мільёнаў жыхароў. Дзякуючы доступу да Атлянтыцкага Акіяну,праз суседняе возера Онтарыё і рэчку сьв. Лаўрына,у портах Кліўленду можна пабачыць кожнага дня /за выняткам зімівае пары/параплавы з ўсяго сьвету.

Апрача морскага порту, ў горадзе ёсьць і паветраны порт,праз які за апошні год прайшло болей трох мільёнаў падарожнікаў.

Пад умелай адміністрацыяй горад прыбірае з кожным годам навейшы выгляд.Ужо годна ўзносіцца новачэсны сарака-паверхавы небаскроб,а каля яго пад зямлёю адчыніў ўжо свае дзьверы новы падзямельны сплёт некалькіх вялізарных заляў,урыўшыся сваімі трох паверхамі ў зямлю на абшары больш дзесятка акраў.Гэта ёсьць "Паблік Аўдыторыюм",будова якога каштавала І7 мільёнаў і пяцсот тысяч даляраў.

Напачатку свайго існаваньня Кліўленд,як і ўсе гарады З.Ш.А.,быў прыпынішчам тысячаў эмігрантаў пераважна з усяе Эўропы.У раньнія гады мінулага стагодзя,сюды прыезжалі:шкоты,французы,немцы і іншыя заходня-эўрапейскія народы,а напачатку бягучага веку рынула сюды маса славянаў,а ў тым ліку і беларусаў,якіх лік агульны сягаў да ІО тысячаў.Гэта былі пераважна людзі нацыянальна маласьведамыя,прыехаўшыя сюды дзя заработку.

Усьлед жа за хваляй эмігрантаў з Беларусі і Украіны,тагачасны расейскі ўрад высылаў і духавенства і то ня толькі праваслаўнае,але і каталіцкае,якога мэтаю было не дапусьціць да нацыянальнага аб"еднаньня і старцца праць царкву і касьцёл праводзіць русыфікацыю і паланізацыю.Прысланыя духоўнікі ў пабудаваных для іх царскім урадам цэрквы і касьцёлы,з захапленьнем выконвалі даручаную ім місыю,а таму нічога дзіўнага,што людзі па нацыянальна нясьведамасьці гуртаваліся толькі каля гэтых рэлігійных асяродкаў і ўспрымалі шкодны чужы ўплыў.Ня менш важнаю прычынаю да гэтага было і тое,што новапрыехаўшыя эмігранты былі пераважна сялянскага паходжань,ня мелі асьветы, і бяз веды ангельскае мовы яны напатыкалі вялікія перашкоды пры пошуках працы і патрабавалі мець нейкую падмогу.На гэткія цяжкасьці для новапрыбылых,расейцы былі поўнасьцю прыгатаваныя і праз сваіх агентаў стараліся паняволіць ня толькі ў рэлігійным,але і грамадзкім жыцьці,закладаючы клюбы "рускага общества",дзе і сяньня яшчэ маюць прыпынак пракамуністычныя элемэнты,усхваляючы там "матушку" Расею, а гэтым разам нават з "батюшкам"Хрушчовым. Польскае ж духавенства гэтак сама не прапускала нагоды каб прыцягнуць беларусаў каталікоў да сябе дн спалянізаваць іх і іхняе новае пакаленьне, праз што і загладжвалася іхняе паходжаньне і сьведамасьць іхніх бацькоў і дзядоў.

## ПАД ЭМБЛЕМАЙ БЕЛАРУСІ.

Пасьля другое Сусьветнае вайны Кліўленд прыняў новыя хвалі ўцекачоў,паміж якіх не забракавала і беларусаў.Гэтым разам сюды завіталі людзі сьведамыя свае нацыянальнасьці,поўныя энергіі,якія з энтузыязмам распачалі будаваць своё рэлігійнае і нацыянальнае жыцьцё і сямейны быт. Дзякуючы няўтомнай дзейнасьці беларуская калёнія ў Кліўленд ужо некалькі разоў годна рэпрэзэнтавала сябе на ўсіх міжнародных імпрэзах,біручы й удзел у выставе народных мастацтваў,што адбывалася ад дня 28 жніўня да 7 верасьня 1964 у "Паблік Аўдыторыюм"

Інцынтыву да падрыхтоўкі выстаўкі і забясьпечаньня месца ў нова адчыненай вышэйуспомненай залі, узяла на сябе цэнтраля ўсіх нацыянальнасьцяў у Кліўлянд ,пры выдатнай падтрымцы маёра гораду сп. Р.Лёкэра,якога бацькі прывязьлі ў Амэрыку аднагадовым хлапцом з Румыніі.

На выстаўцы глядачы маглі падзіўляць розняя вырабы мясцовай і пазамясцовай прадукцыі як то: магутныя земляныя капачкі,здольныя ўзносіць дзесяткі тонаў зямлі,ракеты і капсулы,маторы для рэакцыйных самалетаў і сотні іншых цікавых рэчаў. Тут найвыдатнейшыя фірмы і карпарацыі паказалі сваё найлепшыя вырабы дзеля азнаямленьня з прагрэсам прамысловасьці і тэхнікі. Больш за 300 фірмаў,а між імі і ведамыя далёка за межамі Амэрыкі як:Джэнэрал маторс, Форд,Крайслер,Штандард Ойл, Ю.С.Стіл,Н.А.С.А. і іншыя прадэманстравалі,якога каласальнага поступу можа дасягнуць людзкі розум у вольным грамадзянстві,дзе праца і кошты супрацоўнічаючы сябе дапаўняюць.

Аглядаючы цуды тэхнікі,кожны бачыў доўгія шэрэгі "стэндаў" прыбраных народнаю творчасьцю кожнае нацыянальнасьці. Беларускі "стэнд" адзначаўся ад іншых сваёю арыгінальнасьцю.На сталох ляжалі розныя беларускія кніжкі,краявіды,танцавальныя і харавыя фотаздымкі, ручныя вырабы як; аправа альбому выканая з саломы,вышыўкі беларускаю арнамэнтыкаю,а на сьценах красаваліся жаночыя і мужчынскія нацыянальныя касьцюмы.

На працягу адзінаццаці дзён наведала,як падала статыстыка,больш 200.000 асобаў.Беларускім пытаньнем на выстаўцы цікавіліся:работнікі, навукоўцы,студэнты ,розныя фахоўцы,якія прасілі інфармацыяў і матэрыялаў аб нашай краіне. У адказах значна памагала брашура аб гісторыі Беларусі з картаю,выданай Згуртаваньнем Беларускае Моладзі Аддзелу ў Кліўленд.Лічым неабходным падаць тут адзін з фактаў зацікаўленьня.Падыходзіць да "стэнду" пара людзей мужык з жонкаю.Прачытаўшы надпіс "Быелоруссіан",жанчына кажа: "нас нашыя бацькі прывезлі з ваколіцы Горадня ў З.Ш.А. у Чыкаго маленькімі дзецьмі.Там мы вырасьлі і пабраліся,а цяпер жывём ў Кліўленд.Вы пэўна ведаеце,што нас лічаць рускімі,але мы не зусім з гэтым пагаждаемся,бо памятае,што бацькі нашыя інакш паміж сабою гутарылі,як расейцы.Дык скажэце,дзе фактычна Горадня знаходзіцца?" У адказе дзяжурны каля "стэнду"інфармуе,што Горадня знаходзіцца заходняй часцы Беларусі і мова там выключна беларуская.Вось вам кніжкі і газэты,якія тут бачыце - гэта доказ,аб існаваньні гэтае апрычонае мовы. Інтэрэсанты шчыра дзякуюць, зазначаючы,што яны ўсёж рускімі не зьяўляюцца.

На месцы тут будзе падаць і другі прыклад.Каля беларускага"стэнду" круціцца высокага росту чалавек і часьцяком няпрыязна кідае позірк на выстаўленыя рэчы.Нарэшце не вытрымаў,падыходзіць і з укорам кажа:"што падзялілі матушку Росію"?Дзяжурны адказвае:"так падзялілі і радзім вам задаволіцца сваёю часткаю".

Адначасна з мастацкаю выстаўкаю,адбываліся і выступы тэатральныя Беларуская танцавальная група моладзі 30 жніўня выступіла з бадзёрымі народнымі танцамі.Няма сумліву,што гэткія імпрэзы,прапагуюць імя нашае краіны і гэта ёсьць заслугаю тых,хто да гэтага спрычыняецца.Няхай ў будучыне не названакуе ахвотных і ахвярных працаўнікоў ўва ўсіх беларускіх асяродках,рабіць паказы бел. народнае творчасьці іншым нацыянальнасьцям,падобна Кліўленду,дзе над беларускім"стэндам" красавалася эмблема Беларусі - ПАГОНЯ.

А.Вярэціч.

# КЛІЧ БЕЛАРУСІ

У цяжкіх хвілінах беларускага нацыянальнага жыцьця,у часе вунійнага праследаваньня праваслаўных,Мяленці Сматрыцкі пісаў у сваім "Фрынасе"гэтак аб становішчы нашае Радзімы "Гора мне беднай,гора несчасьлівай з усіх бакоў аграбленай. Рукі мае ў аковах,ярмо на шыі, путы на нагах,ланцуг на клубох..."Гэтыя словы поўныя непакою і смутку,адносяцца дасучаснасьці і то ня толькі да беларускіх бацькоў і Бацькаўшчыны,але наагул да ўсяго беларускага грамадзянства,а асабліва да бацькоў моладзі,у жылах якіх плыве беларуская кроў.

Не дайце сваім дзецям загубіцца паміж чыжынцаў.Не дайце ім забыцца роднае мовы!-бо ў той мове іскрыцца сіла,лагоднасьць,дасьціп, магутнасьць і ўсё,чым можна духова адрадзіцца.

Не пазваляйце сваім дзецям забыцца пра родную песьню!-Бо беларуская песьня была на працягу доўгіх стагоддзяў найшчырэйшаю і найвярнейшаю сяброўкаю беларускага народу як учасе яго радасьці,гэтак і ўчасе смутку,адзінаю развагаю ў хвілінах вялікага гора,найвярнейшым сябрам у рэдкіх хвілінах радаснага ўздыму.

Дайце беларускай моладзі магчымасьць пазнаць слаўную мінуўшчыну Беларусі,перанясецеся ўчасы,калі слава Беларусі па ўсяму сьвету лунала,у часы,калі яна ўмела гаспадарыла ў сябе дома.

Дайце беларускай моладзі нагоду пазнаёміцца з прыгожымі скарбамі беларускае нацыянальнае душы і скарбамі беларускае нацыянальнае культуры на працягу доўгіх стагодзяў мазольнаю працаю здабытых.

І сяньняшні час для паняволенай Беларусі цяжкі.Чужая,варожая рука чырвонае Масквы ўсімі сіламі стараецца ўсе гэтыя скарбы вырваць з душы беларускага народу,а ўсе здабыткі беларускай нацыянальнай культуры зьнішчыць.

Хто стане ў абароне іх? Хто павінен дбаць і змагацца,каб пад ясным чыстым небам Вольнае Беларускае Дзяржавы ізноў залуналі крыжы хрысьціянскіх храмаў?

Наша моладзь павінна стацца нашай будучыняй і найдаражэйшым скарбам нашага народу. Утрата моладзі - гібель нацыянальнасьці.

Таму не павінна быць ні аднаго беларускага дзіцяці,ні аднаго юнака або юначкі,каб не вучыліся ў беларускай школе.

Гэта ня толькі з любові да Беларусі,але і з абавязку да сучаснай новай,прыбранай Бацькаўшчыны.

Амэрыканскія культурныя дзеячы прызнаюць,што амэрыканская культура ўзбагацілася і ўзбагачваецца каштоўнасьцямі,якія ўнесьлі і ўносяць у грамадзкае дабро,паасобныя этнічныя грамады.Гэтак сама выдатнейшыя амэрыканскія дзяржаўныя мужы заяўлялі і заяўляюць,што Злучаным Штатам патрэбны людзі,якія ведаюць мову свае роднае краіны,якія азнаёмлены з яе жыцьцём і культураю.А ціж можа чым прыслужыцца моладзь сваёй ранейшай і новай Бацькаўшчыне не ведаючы ні роднае мовы,ні роднае культуры?

Таму ў імя шчасьлівага будучага жыцьця і для дабра славы нашага народу,няхай ня будзе ні аднаго беларускага дзіцяці,якое не наведвала беларускае школы!

Стараймася школы закладаць,а дзе немагчыма навучайма самі.

Паводле Р.Ш.

---

Чытайце беларускія кніжкі і газэты,бо праз уважнае штодзённае чытаньне папаўняецца асьвета,а асьвета гэта сіла народа.

## ПАЧАТАК ШКОЛЬНАГА ГОДУ

У месяцы верасьні звычайна пачынаецца новы школьны год. У гэтым часе вуліцы пусьцеюць ад дзетвары, а папаўняюцца школы. Кожныя бацькі, якія клапоцяцца аб сваіх дзецях, жадаюць іх узгадаваць на добрых і культурных людзей, а асабліва сяньня ў эру вялікага тэхнічнага поступу, калі навука сягнула наперад так далёкашто чалавек запушчаючыся ў касмос, стараецца раскрыць акружаючую нас таямніцу прастору. А поруч з поступам навукі, вынікаюць неабходнасьці здабыцьця новае і глбейшае людзкое веды, ды кладзецце націск на працёртыя ўжо дзялянкі асьветы, як родная мова, гісторыя і геаграфія.

А дзела чаго гэтак неабходнымі зьяўляюцца гэтыя прадметы? Адказ тут сам насоўваецца. Калі малады чалавек атрымлівае дыплём хіміка, электроніка, фізыка, матэматыка або ін., дык бяз веданьня глыбіні роднае мовы і літаратуры, ён становіцца толькі аўтаматам без нацыянальнае душы. Дзеля гэтага вельмі і ёсьць патрэбнай веда гісторыі і геаграфіі свае краіны. Кончыўшы навуку абсальвэнт не ведаючи гісторыі свайго народу не ўяўляе сабе хто ён такі, адкуль паходзіць ягоны народ, якою славаю адзначаліся ягоны продкі ў мінуўшчыне. Бяз веды роднай культуры і гісторыі ня можна ведаць і мейца паложаньня Беларусі, яе граніцаў і якія багацьці знаходзяцца ў яе нетрах.
Таму для нас беларусаў ў вольным сьвеце не павінна быць ніякага сумліву ў тым, што неабходна ўзгадоўваць грамаду сьведамых маладых патрыётаў для свае Бацькаўшчыны, каб народжаныя і вырасшыя паза межамі свае краіны набылі дастатковы запас веды нацыянальнае, як аргумэнт супроцьстаўленьне расейска-камуністычным фальшам.
Мусім клапаціцца каб мець зьмену у рэлігійным і грамадзкім жыцьці, каб пасьля нашага адыходу займаныя сучасныя месцы не пуставалі і змаганьне за вызваленьне беларускага народу не было спынена. Аснаўным фактарам тут і ёсьць беларускія школы, якія адчынены ўжо ў некаторых беларускіх калёніях. Пацяшаючым зьявішчам ёсьць і тое, што падрастаючае пакаленьне ахвотна горнецца да навукі і наведвае сыботнія школы.
Маям і людзей, якія безітэрасоўна заняліся ўзгадаваньнем беларускае моладзі выкоўваючы маладыя душы згодна ідэалу вялікага Сакавіка.
Ня лёгка праводзіцца праца навучаньня. Ня ўсе бацькі разумеюць яшчэ важнасьць нацыянальнага ўзгадаваньня, а таму некаторыя не пасылаюць сваіх дзяцей да родных школаў. У працы настаўнікаў гэтак сама існуюць перашкоды бо існуюць групоўкі якім хацеласяб мець школу ў сваім распараджаньні і выкарыстоўваць школу для палітычных мэтаў. Аднак ўсе гэтыя перашкоды разьбіваюцца аб рашучасьць сьведамых бацькоў, жадаючых каб у навучаньне не ўводзіліся груповы спрэчкі. Не малою перашкодаю ёсьць і нястача аснаўных падручнікаў з беларусаведы, але і тут настаўнікі даюць сабе раду, падбіраючы і ўкладаючы самастойна патрэбны матарыял для навучаньня.

У іншых народаў справа навучаньня ў родных школах пастаўлена значна лепш. У іх існуюць навуковыя таварыства, якія апрацоўваць праграмы навучаньня, пляны працы і выдаюць патрэбны для навучаньня матарыял. У нас так сама існуе інстытут навукі м мастацтва, але дзейнасьць яго абмяжоўваецца пераважна на выданьне часопісу, а нешкольных падручнікаў. Была магчымасьць выдаць нешта пры выдавецтве "Бацькаўшчына", дзе і выдана шмат кніжак, але выдавецтва чамусьці выдавала некаторыя малаважныя рэчы, а зусім занедбала выдачу Гісторыі Беларусі, або хоць нейкага правапісу, гэтак неабходнага для навучаньня. Выданы і "Змагарныя дарогі", дзе "трохтыднёвы" кадэт асудзіў ганебна змагароў, злажыўшых жыцьцё за волю Бацькаўшчыны. А ці не належалаб выдаць напачатку тое, каб было па чым навучыць моладзь каб магла чытаць гэтыя "дарогі"

або нейкія там "Запіскі Самсона"ці "Нядоля Заблоцкіх".А за дваццаць гадоў на эміграцыі гэтак званыя "лідары" і"рэпрэзэнтанты" не лічылі патрэбным зьвярнуць асаблівую ўвагу на ўзгадаваньне моладзі ў нацыянальным кірунку. У шматлікіх нават паўстае пытаньне ці часам некаторым "лідарам" не залежыць каб ўзгадаваньне праводзілася,або каб была нейкая Рада,ці Цэнтар, якіб спэцыяльна займаўся школьнаю справаю? Ці не стаяць тут на перашкодзе нейкія к-ты,якім зашмат нацыяналізму на да спадобы?.А можа гультаяства ці нядбальства на перашкодзе?

А праблема ўзгадаваньня і школьных падручнікаў можа быць лёгка разьвязана,калі паўстане Агульнае Беларускае Прадстаўніцтва,а пры ім і Школьная Рада,якая і занялласяб справаю школьнаю, ды праз гэта надыйшлаб і каардынацыя ў выдавецтве і былі б выданы найважнейшыя і найпатрабнейшыя дапаможнікі,а не трацілісяб час і сьродкі на выданьне баласту,якога ніхто ня хоча купляць.

Гэткія Прадстаўніцтвы і Школьныя Рады ўжо існуюць у Украінцаў, Летувісаў,Латышоў,Эстонцаў і іншых народаў на эміграцыі.А таму і нам Беларусам ужо час узяцца за справу сур"ёзна,каб нашыя нашчадкі не расплыліся ў чужым моры.

У гэтай справе беларускае грамадзянства заўсёды прыйдзе з дапамогаю і дапаможа нам Бог!

А. Вярэціч.

===========================

## АЙЦЕЦ ЮРЫ АБРЭМСКІ Ў К Л І Ў Л Е Н Д З Е.

20 верасьня сёлета ,ў парафіі Жыровіцкае Божае Маці БАПЦарквы ў Кліўленд адбылася новая падзея. Парафію наведаў а. Юры з Іконаю Хрыста Спаса ,паходзячаю з 15 ст. і адбылося высьвячаньне новаадноўленага Іконастасу.

У вечары 19 верасьня была адпраўлена Ўсяночная, ў нядзелю 20 .9. а гадзіне 10 дакананa высьвячаньне Іконастасу,які з нястачы сьродкаў ня быў выканчаны да гэтага часу. Дзеля гэтага на адным з парафіяльных сходаў было пастаноўлена дадаткова ападаткавацца па дваццаць цалараў ад працуючага і гэткім спосабам праблема аднаўленьня была зрэалізавана. Спрычынілася да гэтага і Беларускае Жаночае Згуртаваньне,якое ахвяравала 2 Іконы на Іконастас і адну вялікую запрастольную.За што Ўправе і сяброўкам Згуртаваньня належыць шчырая падзяка.

Сь. Літургію правілі а. Аляксандар,а. Юры і прат. Калістрат.Чулую пропаведзь сказаў а. Юры,заклікаючы вернікаў верна трымацца свае праваслаўнае веры і БАПЦарквы,ды азнаёміў прысутных з гісторыяй сьв. Абраза і перадачай яго на ўласнасьць а. Юрыю.

Пасьля сьв. Літургіі быў адпраўлены малебен з крэсным ходам навакола царквы з з сь.Абразом. Мэлёдыйны сьпеў хору пад ўмелым кіраўніцтвам дырыгента Кіслага мімавлі паглыбляў малітоўны настрой вернікаў.

Пасьля Багаслужбы,усе ўдаліся ў царкоўную залю,дзе ўжо быў прыгатаваны супольны парафіяльны абед,у часе якога прамаўлялі а. Аляксандар,а. Юры,прадстаўнік ад казакаў,сп.Кабяка,сп.Гумен і інш.

Абед прайшоў ў вельмі мілай і сяброўскай атмасфэры і магчыма яшчэ прадаўжаўсяб колькі гадзін,каб не жаданьне вернікаў каб а.Юры з сьв. Абразом адведаў іхнія хаты.У кожнай з адведаных дамох а. Юры з а. Аляксандрам ды дырыгентам сп.Кіслым адпраўлялі перад сьв. абразом Малебен з Акафістам Спасіцелю.Але на вялікі жаль прыезд а. Юрыя і пабыт яго ў Кліўлендзе ня мог быць прадоўжаны,бо ў паня-

дзелак ня трэба было ісьці на працу. А таму ў зьвязку з выездам а. Юрыя з Іконаю некаторыя вернікі памаліцца перад сьв. Абразом у сваёй хаце ня мелі магчымасьці.

Згодна слоў а. Юрыя гістарычным Абразом у Нью Ёрку ёсьць вялікае зацікаўленьне не толькі з боку вернікаў,але рэпартараў і спэцаў гістарычных рэчаў,якія поўнасьцю сцьвярджаюць ягонае 500 гадовае паходжаньне і найбольш цікавяцца тым,адкул ў тым часе мог быць здабыты матарыял падобны да дарагіх дыямэнтаў і каштоўных каменьняў.

4========================

ПРАЎДА - ТАКОЕ ІНТЭЛІГЭНЦЫІ Ў НАС НЯ БЫЛО.

У 90-тым нумары "Беларуса" зьмешчаны артыкул "Яшчэ гэтага ня было",напісаны "інтэлігэнтам",аб якім у заўвагі ад рэдакцыі зазначана: "ён працiўнік так званае Беларускае Цэнтральнае Рады і Рады БНР".

Аўтару гэтага артыкулу гэтак сама ведама,што ён быў і ёсьць працiўнікам Беларускага Інстытуту Навукі і Мастацтва,уступаў і выступаў некалькі разоў з БАЗА,ён працiўнік усялякіх рэлігійных установаў і арганізацыяў,ды наагул працiўнік усяго таго,што беспасярэдня не дае яму асабістае карысьці.Гэта сьветчыць аб тым,што ў яго не галава,а "думніца-разумніца",а што ён "інтэлігэнт" дык і тое сьветчыць,што ён ніколі ня быў працiўнікам др.Янкі Станкевіча.

Спадар "інтэлігэнт" па свойску адзначыўшы,каго можна назваць інтэлігэнтам,загалапаваўся аб тым,што нешта выступае супроць інтэлігэнцыі й пачаў яе бараніць ня ведама ад каго і ад чаго. Ужо сам артыкул сьветчыць аб неінтэльгэнтнасьці аўтара і гэтым самым аб абніжэньні вартасьці "Беларуса",а перадусім сьветчыць аб зламыснасьці і пачуцьці ніжшасьці.

"Інтэлігэнт"мае слушнасьць калі цьвердзіцьшто,калі хто выступае супроць інтэлігэнцыі,то наагул ён"супроць свайго народу,супроць навукі,што гэта нават камуністычная работа" і.гд. Можа гэта і правiдлова? Але такога зьявішча ў людзкім жыцьці ня можа быць,бо "цямната" сама па сабе ня будучы інтэлігэнцыяй ня ведалаб нават што рабіць і і нашто супроць выступаць.Хібаж нехта сам сабе вораг?

Выпадак "супроць інтэлігэнцыі на аснове чаго "интэлігэнт" напісаў артыкул нічога супольнага зь інтэлігэнцыяй ня мае.Аўтар абасноўваючыся на спрэчках агульнага сходу I4 чэрвеня ў Нью Ёрку,зь якога частку сябоў вышла нібы інтэлігэнтаў,палічыў тых,што засталіся прадоўжваць сход за "цямнату".Але нажаль ня ўсе "інтэлігэнты"вышлі,і здаецца сам аўтар дасседзяў да канца,а ўсапраўднасьці вышлі толькі разбураючыя самалюбы.

I каліб гэтыя людзі былі інтэлігэнтамі ды яшчэ адукаванымі,то павінны быліб захоўвацца на сходзе прызваіта,а перадусім згодна дэмакратычнага права падпарадкавацца пастановам бальшыні,але яны - "інтэлігэнты" палічылі сябе вышэйшымі і лепшымі,уявілі,што толькі яны маюць слушнасьць,што толькі яны ведаюць,што карысна беларускаму вызвольнаму змаганьню,а што не?.У дыскусіях кляймілі сваіх працiўнікаў,высоўваючы аргумэнт,што яны мала-граматныя і не разумеюць справы,а дзелягэтага усе павінны толькі ім падпарадкавацца. А таму бязумоўна зрамадзтва не магло прызнаць іхнія патрабаваньні слушнымі.

Не ад сяньняж усім ведама,што інтэлігэнцыя вучыць і падрыхтоўвае новае пакаленьне.Яна кіруе змаганьнем за вызваленьне,а здабыўшы сваю дзяржаву ею кіруе,яе абараняе,апрацоўвае законы,дбае аб дабрабыце і роўнаправіі ўсіх грамадзянаў незалежна ці яны інтэлігэнты, ці "цямната",бо закон павінен быць для ўсіх аднолькавы.

Але нам таксама ведама,што беларуская інтэлігэнцыя,якую калісьці называлі шляхтай,загубіла сваю дзяржаву пайшоўшы на службу маскоўскага і варшаўскага каралеўскіх двароў.Нам ведама,што пры дапамозе беларускае інтэлігэнцыі стагодзямі трымалі ў падняволеньні "беларускую цямнату".Дзейнасьцю беларускае інтэлігэнцыі палякі,расейцы ды бальшавікі праводзілі сваю палітыку.Праўда такое "інтэлігэнцыі" сярод беларускага народу было мала,але было яшчэ менш сапраўднае патрыятычнае каб ім супроцьставіцца ды праалізаваць іхнюю дзейнасьць.Нават аўтар артыкулу "яшчэ гэтага ня было" ды рэдактар газэты ў якой гэты артыкул быў надрукаваны не малую зрабілі прыслугу палякам за грошы на шкоду беларускаму народу.

Вос-жа супроць такое інтэлігэнцыі трэба бязумоўна змагацца,асабліва,калі служыць чужой і варожай для беларускай вызвольнай ідэі справе. Інтэлігэнты,якія хочуць паказаць сваім працадаўцам,што яны не звычайныя паслугачы,а лідэры і грамадзкія правадыры,ёсьць бязвартаснымі і нават шкоднікамі,а таму пакуль яны ўзглаўляюць беларускі вызвольны рух - незалежнасьці Беларусі не можа быць асягнена.А нашым ворагам гэтага толькі і трэба.

Праўда можам толькі цешыцца,што гэткае інтэлігэнцыі між намі на эміграцыі вельмі мала, даслоўна некалькі асобаў,якія скрывілі душою ды працуюць не на дабро Беларусі, бо прапагуюць,што яны нібы зьяўляюцца насьбітамі"незалежнасьці", што толькі яны - ідэал Рады БНР,а ў сапраўднасьці зусім апаганілі яго. Дапушчальна,што сп. "інтэлігэнт" з гэтае прычыны і выступіў з сяброў Рады?

Але хтож такія гэтыя лідары? А вось яны! Адзін гатовы страціць нават свой вайсковы гонар,каб толькі захаваць сваё жыцьцё,другі поўдзе і будзе верна выконваць чужыя загады,абы толькі зарабіць на чарку гарэлкі,а трэйці ўроджаны нявольнік будзе ўсім служыць,але не свайму народу,чацьвёрты наагул неінтэлігэнт,ды яшчэ не пры сваім розуме, а пяты ўсім і ўсё,а да ўсяго вялікі лгун.

Гэты лгун "інтэлігэнт" у сваім артыкуле кажа:"калі на сходзе I4 чэрвеня сяброў Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня Акругі Нью Ерк адзін з удзельнікаў з высокай асьветай асьветчыў,што ён неінтэлігэнт, дык можа ён і сапраўды не інтэлігэнт,бо за гэта прамаўлялаб і тое, што каб схаваць сваё беларускае паходжаньне,ён,як чуваць зьмяніў сваё прозьвішча на ангельскі лад."

Тут спадар "інтэлігэнт" як кажуць перакруціў ката хвастом.У сапраўднасьці ён сам закінуў гэтаму адукаванаму інтэлігэнту ды сапраўднаму ідэалісту і беларускаму шчыраму патрыёту,што ён не належыць да інтэлігэнцыі бо не падзяляе ягоных думкаў.Праўда да такое "інтэлігэнцыі" ён не належыць,бо страціўбы ўсялякі гонар і на ягоб сябры глядзелі з пагардаю. Гэты чалавек скараціў сваё прозьвішча пры атрыманьні амэрыканскага грамадзянства толькі дзеля таго,каб лягчэй было яго вымаўляць амэрыканцам ,што зьяўляецца нармальным зьявішчам пры атрыманьні грамадзянстве. і ніхто з беларусам не робіць ' ў гэтым закідаў. Але ў гэтага чалавека напісана ў дакумэнтах пры атрыманьні грамадзянства,што ён нацыянальнасьці Беларус,а ў нашага "інтэлігэнта"-паляк. Дык што Вы на гэта скажаце сп-ру "інтэлігэнт"? А што Вы скажаце,што вашыя сынкі папераменялі свае беларускія на амэрыканскія імёны? А што Вы скажаце на тое,што, "славуты" скарбнік раскольніцкае групкі сваё імя Расьціслаў зьмяніў на Роджэр? Вось якая лёгіка ў "інтэлігэнта" і яна ня толькі бязвартасная,але заслугоўвае толькі на кпіны.

З выказваньняў сп. "інтэлігэнта" зусім становіцца ясным,што абарона свайго народу,ягонага гонару, сваіх правоў і нацыянальнае годнасьці зьяўляецца шкодным,а разьбіваньне беларускіх арганізацыяў, накіданьне волі,зьневажаньне людзей,ламаньне грамадзкіх і дэмакратычных парадкаў ёсьць карысным - але каму?

Захавай Божа наш Беларускі Народ ад гэткае "інтэліґэнцыі".

Сапраўдны інтэлігэнт.

==========================================

АД РЭДАКЦЫІ: АДКАЗ СП."ІНТЭЛІГЭНТУ" НА ЗАКІД АБ "ЦЕМРЫ" згодна артыкулу ў "Беларус" №90 "Яшчэ гэтага ня было"

Закід Ваш сп."Інтэлігэнт" зусім не вытрымоўвае крытыкі,бо каб Вы былі інтэлігэнтам,то напэўна стараліся б як найменш ужываць гэткіх слоў як:"ліхадзей","нягоднік","чорт","ідыёт" і падобныя. Ці ж гэта словы належаць да інтэлігэнтных? А самая форма,зьмест і аргумэнты артыкула не сьветчаць аб інтэлігэнтнасьці ? Выж зусім разьмінаецеся з праўдаю і супярэчыце самому сабе пішучы: " такую здольнасьці ня прыдбаюць,яе нельга навучыцца,зь ёю родзяцца.У каго ёсьць тагая здольнасьць той інтэлігэнт,хаця-бы ён быў няпісьменны; у каго яе няма,той неінтэлігэнтны,хаця бы ён быў прафэсарам унівэсытэту і навучоным." Словы праўдзівыя.Але Вы забыліся аб найважнейшай рэчы па чым ацэньваюць чалавека ці ён інтэлігэнт або неінтэлігэнт і хто ацэну праводзіць над гэтым? Яго судзяць згодна ягоных паводзінаўіначай кажычы захаваньня.Калі тая,або іншыя асова захоўваецца вульгарна праз чын,або словы,то нават з вышэйшаю асьветаю ніколі ня можа быць залічаны да інтэлігэнта, а таму дазвольце Вам сказаць,што згодна Вашыўспомненых Вамі ў Вашым артыкуле слоў,Вы толькі самі сябе можаце залічваць да іітэлігэнта,але не грамадзкасбць.

Пішучыж,што ўсе беларусы інтэлігэнтныя Вы не знайшлі нават іншага аргумэнту,.ды чамусьці паклікаецеся на польскія вайсковыя чыннікі,што яны лічылі беларускіх жаўнераў інтэлігэнтнымі.Аргумэнт вельмі не намейсцы,бо той хто служыў у польскум войску ведае,што іх лічылі як паслушных жаўнераў і добрых выканаўцаў,але не залічвалі да інтэлігэнтных.А прыпомніце сабе зварот польскае адміністрацыі да беларусаў залічвалі іх да інтэлігэнтаў?

А што да "цямнаты" "Уздыму" дазвольце Вам сказаць,што Ваш адзін артыкул "Яшчэ гэтага ня было" зацямніў "Беларуса" у сто раз больш, бо ў выданых 5 нумарах "Уздыму" ня было гэткае лаянкі,вульгарызму,як у Вашым адным артыкуле сп. "интэлігэнт. А што Вам зьмест у "Уздымі"не падабаецца,бо там выказваецца праўда,крытыкуецца шкоднае дзейнасьць таго,або іншага групаваньня,праводзіцца ідэя паяднаньня беларускае эміграцыі незалежна ад асабістых перакананьняў, з чым нам ведама Вы ніколі не пагодзіцеся - гэта так сама ёсьць доказам бо Вы сіліцеся замуціць,зацямніць,засьляпіць людзкія вочы,а таму зьяўляецеся самі цемраю і радзім Вам у будучыне падпісвацца не "інтэлігэнт",а л і х а д з е й.

====================

АДКАЗ СП. С. ЗАБАЛОЦКАМУ.

У № 2/53 з I964 году "Барацьба" зьмешчаны артыкул за подпісам Забалоцкага,які ў артыкуле "Новае на стары лад" відаць яшчэ не зусім прамыў свае мазгі,бо не знаходзячы новых аргумэнтаў ставіць

рэдакцыі "Узьыму" тыя самыя закіды, якімі займаліся падобныя заба-лоцкія на працягу тыхжа 17 гадоў аб якіх успаміная пісака. Мы зусім ня мелі намеру адказваць Забалоцкаму каб не закранутыя ім два пытаньні мяноўна:усхваленьне пратапрасвіцера а.М. Лапіцкага і абяленьне сп. Мадэста. Яцкевіча. У артыкуле гаворыцца:"а паколькі а. Лапіцкі ўвесь час ад заляжэньня БАПЦАРКВЫ ведаў куды вяла БАПЦ..." Мы Вам скажам,што ён і цяпер вельмі добра ведае,што БАПЦарква імкнецца да ўсіх праваслаўных вернікаў,а таму а. Мікалай усімі сіламі стараецца гэтаму супроцьдзейнічаць,каб самаму быць "босам",а таму не ўдаючыся ў мінуўшчыну падаём тут адзін з шматлікіх прыкладаў.

Сёмага ліпеня сёлета беларускі інжынер Харытановіч з Кліўленд, пачуваючыся шчырым беларусам,зьвярнуўся да а. Аляксандра каб дазволіў царквы выканаць таінства хрышчаньня,зазначаючы,што ён хоча каб ахрысьціў а. М.Лапіцкі,бо ён хрысьціў ягонае першае дзіця,,ды што ён з а. Мікалаем Лапіцкім ужо дагаварыўся,а толькі залежыць ад дазволе царквы.

Айцец Аляксандар як беларусу без засьзярогаў просьбу сп. Харытановіча задаволіў. Аднак калі 9 ліпеня прыехаў а.Мікалай у Кліўленд,то не пашоў служыць ў Беларускую Царкву,а служыў і выканаў таінства хрышчаньне ў Царкве расейскай.Вось тут паўстала ў некатор рых пытаньне чаму? Прат. Мікалаю Лапіцкаму добра ведама,што з існуючых у Амэрыцы двух Расейскіх юрысдыкцыяў не прызнаныя Усяленскім Патрыархам ні юрысдыкцыя Анастасіеўская,ані Леонцееўская,бо для расейцаў існуе Маскоўская Патрыархія і другое для таго самага народа юрысдыкцыі быць на можа.

Зразумела зусім лепшым праўным становішчы знаходзіцца БАПЦ і УАПЦ,бо гэта асабныя народы ад расейцаў,якія мелі свае незалежныя метраполіі яшчэ ў тым часе калі не існавала маскоўская дзяржава і што праваслаўныя Мітраполіі на землях Беларусі і Украіны былі пазьней сілаю далучаны да Маскоўскае ,аб чым нават сьветчыць той факт, што Усяленскі Патрыарх ,выдаючы Томас для Праваслаўных беларусаў і Украінцаў у Польшчы .Аднаўленьне Беларускае Мітраполіі Мельхісед эк-кам, ды аднаўленьне БАПЦарквы ў часе нямецкае акупацыі ў 1942 г., усё гэта сьветчыць аб разуменьні беларускага народу мець сваю незалежную Царкву. Вот тут паўстае пытаньне чамуж а. Лапіцкі каторы належаў да Епіскапату БАПЦарквы і супрацоўнічаў у 1942 годзе ў Менску,цяпер чамусьці цураецца Аўтакефаліі,а ідзе служыць у расейскую царкву,што нават супярэчыць яконай юрысдыкцыйнай прыналежнасьці.А бяручы пад увагу яшчэ і той факт,што а.Лапіцкі ніколі не зьяўляецца на вызначаны час на перамовы аб рэлігійным паяднаньні, сьветчыць аб тым,што ён не жадае паеднаньня,а для асабістых мэтаў стараецца ўтрымаць сучасны стан рэлігійнага разеднаньня.

Што да абароны Мадэста Яцкевіча,які магчыма толькі сам сябе і бароніць,то тут школда шмат слоў. Згодна вестак ён яшчэ за часы польскія быў пазбаўлены сьвятарскага сану,а таму ўчасе нямецкае акупацыі зусім не абслугоўваў духова вернікаў.Зьявіўшыся ў Аўстралію ён нізка кланяўся ўладыку Сергію каб прыняў яго да юрысдыкцыі БАПЦарквы,веручы ў ягоную чэснасьць ,то ён Мадэст заміж падзякі за гэта ўчыніў тое ,што не чыніць кожная жывёла ў сваім бярлогу, а таму зусім слушна,што Уладыка Сергій пазбавіў яго нанова сьвятарскага сану,бо пераканаўся,што апрача шкоды сп. Яцэвіч нічога карыснага для БАПЦарквы не прынясе.

Што да парадаў Забалоцкага аб далучэньні да БЦР і БПЦарквы, гэта могуць толькі пісаць людзі ня ўмеючыя лягічна думаць,або зусім не азнаёмленыя з беларускім рэлігійным і грамадзкім жыцьцём, бо кожнаму ўжо ведама,што былы прэзыдэнт Беларускае Цэнтральнае Рады праф.Астроўскі публічна на Зьездзе Вэтэранаў, які адбываўся 4 і 5 ліпеня на "Рэсорце"Менск",асьветчыў,што ён не зьяўляецца больш Прэзыдэнтам БЦР,а гэтым самым і самазьліквідаваў гэтую беларускую ўстанову.

У справеж далучэньня да Беларускае Праваслаўнае Царквы,якую Забалоцкі лічыць"кананічнаю",то гэта толькі ўводжаньне ў блуд беларускіх праваслаўных вернікаў дзеля далейшага ўтрыманьня іх у стане замалотаў і непаразумленьняў. Ціж можа існаваць Царква без Епіскапату? А хтож ёсьць Епіскапам Беларускае Праваслаўнае Царквы? Дык паштож затуманьваць людзям вочы нейкаю "кананічнасьцю" і адмовамі служыць з беларускімі сьвятарамі,калі ўсім ведама,што ўсе сьвятары іншых нацыянальнасьцяў служаць з беларускімі сьвятарамі,апрача расейскіх ў Амэрыцы,зь якімі служыць а. Мікалай Лапіцкі. А таму радзім Вам сп. Забалоцкі раней чым нешта пісаць і выказваць безвартасныя думкі перш передумаць што пісаць і што праз гэта можна дасягнуць.

===========================

## ЛІСТЫ Ў РЭДАКЦЫЮ.

Вельмі Паважаны Сп. Рэдактар! У імя праўды не адмоўце зьмясьціць на бачынах "Узды му" наступнае:

У нумары 89 газэты "Беларус" зьмешчаны артыкул за подпісам сп. Р.Гарошкі ў якім зроблены мне закід што я вінаваты ў тым,што ня было адчынена банковае конто пры Акруговым Аддзеле БАЗА ў Нью Ёрку і што грошы знаходзіліся ў скарбніка прыватна,а таму выясьняю: на першым паседжаньні Акругоўвае Управы БАЗА дня 22 чэрвеня 1968 году пратакол № 1,пастаноўлена,каб скарбнік сп. Р. Гарошка адчыніў банкавае конто,праз якое павінны праходзіць ўсе паступаючыя грошы і пастанова 2-ая не выплачваць рахункаў без апрабаты старшыні Управы БАЗА і 3-яя пастанова перасылаць квартальныя фінансавыя справаздачы да Акругоўвае Управы БАЗА. На другім паседжаньні Управы дня 7 верасьня 1968 году пратакол гэты быў прачытаны і прыняты без папраўкаў аднагалосна. Аднак скарбнік сп. Гарошка ні адну з гэтых пастановаў не выпаўніў.

Другі закід,што старшыня Акругоўвае Управы ў Нью Ёрку вялікую суму грошаў, атрыманых з сустрэчы Новага году трымаў у кішэні і распараджаўся імі бяз ведама скарбніка блізу 5-ці месяцаў і то без далічэньня належных працэнтаў -выясьняю: перад ладжаньнем навагодняе імпрэзы на выдаткі зьвязаныя з ёю я атрымаў ад скарбніка сп. Гарошкі 220 даляраў.З атрыманае сумы я выплаціў 50 даляраў як задатак музыкантам,сп. Зіні Станкевіч 150 даляраў выдаў на закуп прадуктаў на імпрэзу,а таму арганізацыйных грошаў засталося толькі 20 даляраў. На пакрыцьцёж выдаткаў на імпрэзу разам было выдана 749,02 даляры,з чаго 529,02 я змушаны быў пакрыць з уласных ашчаднасьцяў,бо ня было магчымасьці з скарбнікам навязаць лучнасьці на спробы тэлефанічнага паразумленьня,я заўседы атрымліваў адказ: няма дома, вучыцца і рэдка бывае ў дому. А як старшыня будучы адказным у падрыхтоўцы да гэткае вялікае імпрэзы,я і быў змушаны выдаваць уласныя грошы не чакаючы пакуль мне нехта іх зьверне з далічэньнем працэнтаў.

сп. Гарошка,як скарбнік, дакладна ведаў аб гэтым.Ведамая яму была і сума грошай,якая засталася як даход па адлічэньні ўсіх выдаткаў,аднак зломысна піша ,"што вялікая сума грошай была"...
Было ведама яму і чаму немагчыма было адразу разрахавацца,бо закупы на імпрэзу рабіліся некалькімі асобамі і адразу ня было магчымасьці сабраць усе рахункі.Аднак зрабіўшы падлік выясьнілася,што чыстага даходу было 153 даляры і 53 цэнты і згодна новапаступіўшых рахункаў я павінен быў здаць у касу 94 даляры і 53 цэнты.Вось гэта і была тая "вялікая" сума аб якой піша сп. Р.Гарошка.
Галоўнаюж прычынаю чаму вымененая сума не была адразу перказана ў касу было тое,што с-ня Зіна Станкевіч не аказала рахунку на 134 даляры і 65 цэнтаў без чаго было немагчыма зрабіць справаздачу, і пасьля доўгага чаканьня на рахунак справаздачу прышлося рабіць без яго,якога напэўна сп. Гарошка і цяпер ня мая ў касавых доказах. З праўнагаж пункту гледжаньня сп. Гарошка,як скарбнік, павінен быў лічыць ў гэтай справе віноўніцаю сп. Зіну Станкевіч і паклікаць яе каб публічна выясьніла прычыну не аказаньня рахунку ў сваім часе,а сп. Гарошка аб гэтым нават не ўспомніў у сваім асьветчаньні,а зрабіў мне закід у затрыманьні арганізацыйных грошай. А справа затрыманьня зусім не павінна была належаць да кампэтэнцыі сп. Гарошкі,а да Акруговае Ўправы і Рэвізыйнае Камісіі куды згодна статуту я і павінен складаць усе справаздачы, пры складаньні якіх у мяне ніколі не был недакладнасьцяў,падобных,як у сп. Р. Гарошкі які ўчасе правядзеньня рэвізыі не аказаў ні банковае кніжкі ані грошай.Няпраўдаю і маною ёсьць і тое, што сп. Гарошкам далічваліся і дапісваліся працэнты да арганізацыйных грошай, аб чым я асабіста сьцьвярджаю як прысутны ў часе праводжаньня рэвізыі на працягу апошніх трох гадоў.

На месцы тут будзе яшчэ зазначыць,што сп. Гарошка яшчэ дагэтага часу не разьлічыўся з Царкоўнаю Радаю за вынаймо Царкоўнае залі на Гадавы Перавыбарчы Сход 14 чэрвеня 1964 г.,а гэтак сама не выканаў пастановы з паседжаньня ўправы з дня 6 чэрвеня 1964 г. у справе набыцьця "шэры" рэсорту "Менск",ды сабраныя папярэдняй Управай грош трымае ў сябе,або ўжывае на собскія патрэбы.

Д. Клінцэвіч.

==========================

## ШТО ЧУВАЦЬ У СЬВЕЦЕ

Мінулы тыдзень ад 12 да 17 кастрычніка адзначыўся шэрагам важных сусветных падзеяў.Гэтак у чацьвер 15 кастрычніка а гадзіне 3-цяй папаўдні праведзены першы экспэрымэнтальны выбух атомнае бомбы ў Кітаі.

Гэты першы выбух у камуністычным Кітаі выклікаў шматлікія камэнтары і нарады ўрадавых чыннікаў у розных дзяржавах сьвету.

Прэзыдэнт Амэрыкі Джанксон выдаў асаблівы камунікат,у якім гаворыцца,што гэта ня было неспадзеўкаю для Амэрыкі,бо яшчэ 29 верасьня дзяржаўны сакратар Дін Раск запэўніў,што трэба спадзявацца ў найбліжэйшым часе выбуху атамовае бомбы ў Кітаі. Далей прэзыдэнт зазначыў,што не належыць пераацэньваць гэтае падзеі,бо яшчэ патрэбна некалькі гадоў,пакуль камуністычная кітайская бомба станецца апэратыўнаю і тагды нават гэтак сама ня зможа зраўняцца з амэрыканскаю.

Захаднія камэнтары цьвердзяць,што прадукцыя першае атамовае бомбы мая перадусім прапаганднае і псыхічнае значаньне,а не ваеннае, бо стаўшыся сябрам "атамовага клюбу" дзяржаваў камуністычны Кітай збольшвае свой прэсьціж у вачох азыяцка-афрыканскіх народаў і робі-

цца партнэрам у міжнародных канфэрэнцыях разбраеньня.Але першае ўражаньне ў Азыі і Афрыцы аб выбуху было адмоўным,а асабліва ў Японіі, дзе левая камунізуючая арганізацыя,якая заўсёды выступала супрць Амэрыкі,зарганізавала супрць-кітайскую дэманстрацыю.

---

15 кастрычніка ў Савецкім Саюзі раптам і неспадзявана надыйшлі зьмены ў кіраўнічых становішчах.Усемагутны дыктатар Мікіта Хрушчоў,які здалеў у 1953 годзе расправіцца з небясьпечнымі яму канкурэнтамі да ўлады,ліквідуючы Бэрыя і адсоўваючы ад улады Кагановіча,Молатава і Маленкова,скнцэнтраваў у сваіх руках усе кіраўнічыя становішчы дзяржавы і партыі.

Цяпер надышла і на яго чарга.Уся савецкая прэса з дня 16 кастрычніка г.г. паведоміла што; пленум ЦК КПСС "задаволіў просьбу Хрушчова,пра звальненьне яго ад абавязку першага сакратара ЦК КПСС,сябр прэзыдыюм і старшыні Рады Міністраў СССР у зьвязку з ягоным пахілым векам пагоршаным станам здароўя". Апрача яго зьняты з займанага становішча і рэдактар "Ізвестіі" -зяць Хрушчова Аляксей Аджубей і др.

Новым першым сакратаром назначаны Леанід Брэжнеў,а прэмерам Аляксей Косыгін. У выданы савецкі камунікат,што быццам Хрушчоў прасіў сам аб звальненьні яго з усіх займаных становішчаў, з увагі на"кепскі стан здароўя", ніхто аднак не верыць як ў Савецкаму Саюзі гэтак і заграніцаю,бо Хрушчоў хоць і меў 70 гадоў,быў фізычна добра збудаваны і чуўся добра.

---

У Англіі ў выбарах да Палямэнту выграла Сацыялістычная партыя працы,але вельмі малою колькасьцю бо ўсяго 4 мандатамі.У сучасным ангельскім Парлямэнце з усіх 630 пасольскіх мандатаў сацыялісты атрымалі-317,кансэрватысты 304, лібералы 9,а таму калі лібералы далучацца да кансэрватыстаў,то ўрад новага прэмера ня зможа правесьці ніякіх пастановаў,а таму кансэрватыўныя і ліберальныя правадыры запэўняюць,што ўрад Вільсана ня зможа больш утрымацца як адзін год.

===========================

ВЯЛІКІ ЗЬЕЗД У АТЭНАХ.

З нагоды шлюбу грэцкага караля Канстанціна з данскаю князёўнаю Аннаю-Маыяю у канцы месяца верасьня ў Атэнах адбыўся вялікі зьеэд манархаў,прэзыдэнтаў,прэм"ераў і міністраў .Гэта быў як бы штуршок да сустрэчы дзяржаўных сусьветных чыннікаў і нарадаў.

На асаблівую ўвагу заслугоўвае прысутнасьць у Атэнах Кіпрска-грэцкага прэзыдэнта Макарыюса,галоўнага каманданта збройных сілаў НАТО генэрала Лаймена Лемніцэра і іншых захадніх дзяржаўных мужоў для нарадаў у справе Кіпру.

===========================

Канцлер Каліфорнійскага ўнівэрсытэту доктар Эдвард В.Стронг заявіў,што нават найлепшыя выпусьнікі сярэдніх школаў /гай скул/ гэтак слаба ведаюць ангельскую мову, што мусяць запісвацца ў коледжы або ў унівэрсытэты моваў на дапаўняючыя курсы ангельскае мовы, бо не ўмеюць граматычна пісаць гэтаю мовою.

===========================

"Катэдра беларускай філялёгіі пры Варшаўскім унівэсітэце дагэтуль выпусьціла 28 чалавек,зь якіх 25 атрымала званьні магістраў.18 зь іх працуе ў Варшаве,у тым значная колькасьць у сярэдніх школах,частка ў выдавецтве,у польскай Акадэміі Навукаў і на ўнівэсытэце"

/Ніва,3.У.64/

Сьв. ✝✝✝ Пам.

АДДЗІНАЦЦАТАГА ЛІПЕНЯ 1964 го ✝ ду У БАРАНАВІЧАХ /БЕЛАРУСЬ/ НА 85 ГОДЗЕ ЖЫЦЬЦЯ ПАМЕРЛА ОЛЬГА ПАЎЛАЎНА Я С Ю К. ПАКОЙНАЯ БЫЛА СЬВЕДАМАЙ БЕЛАРУСКАЙ І ЎСЕ ЖЫЦЬЦЁ СВАЁ ПАСЬВЯЦІЛА ВЫХАВАНЬНЮ ДЗЕ-ЦЕЙ У БЕЛАРУСКІМ ДУХУ, ЗА ШТО І БЫЛА ЗЬНЯВОЛЕНАЯ БАЛЬШАВІКАМІ НА 10 ГОД У КАЗАХСТАНЕ. ВЕЧНАЯ ЁЙ ПАМЯЦЬ!

---

## НА ТРЫЦЦАТЫЯ ЎГОДКІ СЬМЕРЦІ ПРАФЭСАРА ЭПІМАХ-ШЫПІЛЫ

Трыццаць год таму,6 чырвеня 1934 году ў Ленінградзе,у галадзе й адзіноце,памёр прафэсар Браніслаў Эпімах-Шыпіла.У савецкай Беларусі мала хто ведае пра Эпімах-Шыпілу.Ягонае імя й дагэтуль няма ані ў двухтомніку "Гісторыі БССР",ані ў падручніках гісторыі беларускае літаратуры, ані ў зборніках дакумэнтаў беларускае гісторыі.Ведаць пра Эпімах-шыпілу мусіў-бы кожны беларускі школьнік. Ягонае ймя заслугоўвае быць імём беларускіх навучальных установаў і выдавецтваў. Чаму? Таму, што прафэсар Эмімах Шыпіла быў волатам адраджэньня беларускае культуры,мэцэнатам нашае літаратуры,заснавальнікам у 1906 годзе першага беларускага выдавецтва "Загляне сонца і ў наша ваконца".Дзякуючы матарыяльнай ахвярнасьці прафэсара Эпімах-Шыпілы,выдавецтва гэтае праіснавала да 1913 году й выпусьціла ў сьвет 22 беларускія кніжкі.Сярод іх былі: першы зборнік Янкі Купалы "Жалейка" паэма "Сон на кургане",другі зборнік Купалавых вершаў"Шляхам жыцьця" першая кніжка апавяданьняў Зьмітрука Бядулі "Абразкі",творы Дуніна-Марцінкевіча,Францішка Багушэвіча ды іншых беларускіх пісьменьнікаў

Браніслаў Эпімах-Шыпіла нарадзіўся 4-га чырвеня 1859 году ў фальварку Бузькаўшчына на Віцебшчыне ў сямьі дробнага шляхціца. У Пецярбурзе ён скончыў факультэт клясычных моваў і там-жа выкладаў. Ен меў ня толькі "чулае сэрца",пра якое пісаў Купала,а й вялікі розум.Адно й другое ён шчодра аддаў беларускаму культурнаму адраджэньню.Ён валодаў 20 старажытнымі й новымі мовамі.Разам з гэтым ён цікавіўся ўсім,што мела дачыненьне да Беларусі.Ен трымаў самую цесную сувязь зь беларускімі адраджэнцамі.Ён рупна зьбіраў помнікі беларускае культуры,старыя кнігі,летапісы,рукапісы ўсіх беларускіх пісьменьнікаў.Ягоная кватэра была музэем беларускіх кніжак і дакумэнтаў.У 1929 годзе ён ахвяраваў Акадэміі навукаў БССР сваю каштоўную бібліятэку,што зьбіраў працягам 40 гадоў ды якая складалася зь пяцёх тысячаў кнігаў.

Сёньня-трыццатыя ўгодкі сьмерці Эпімах-Шыпілы.Беларусь не дачакалася яшчэ таго часу каб ушанаваць памяць свайго вялікага сына. Трыццатыя ўгодкі сьмерці на бацькаўшчыне адзначаюцца маўчаньнем. Трэба спадзявацца і верыць аднак,што недалёкі той час,калі і беларусы здолеюць ушанаваць сваіх вялікіх продкаў.Прысьпешыць прыход такога часу-наш з вамі абавязак,абавязак кожнага шчырага сына свайго народу. /З праграмы радыё свабода/

---

Адказ Паважанаму Доктару Янку Станкевічу.

Гэтым ветліва паведамляем Вам, што надасланае Вамі карэспадэнцыі на бачынах "Уздыму" не зьмяшчаем толькі таму,што Вы пасьпяшыліся зьмясьціць яе ў "Беларусе",а таму зьмяшчаць яе другі раз былоб зусім не мэтазгодным. /Рэдакцыя/

## ТАК , АДУМАЙСЯ ЧАЛАВЕЧА!
/Адказ на артыкул "Адумайцеся людзі"Беларус № 90"/

Праўда,што можна з розных прычынаў асабіста пагаждацца або не пагаждацца з паглядамі іншых або іхняй тактыкай дзеяньня.Можна і не зьявіцца на на імпрэзу другараднага значаньня.Можна ды нават неабходна крытыкаваць дзеяньні іншых кажнага паасобку,або нават кіраўнікоў арганізацыяў,калі іхняя дзейнасьць не адказвае большыні сяброў арганізацыі,але не ўцякаць са сходу,ды праводзіць разьбівальную работу творачы ў той самай арганізацыі паралельную ўправу,і то толькі дзеля таго каб каб мець наўперад аблічаную карысьць не зважаючы,што гэтым прыносіцца шкода агулу грамадзянства. Але ня можна зрываць імпрэзы нацыянальнага значаньня,якая не належыць да вускага кола "дыктатараў",а зьяўляецца яскравым доказам,што беларуская эміграцыя жыве і дзеіць. А гэткай вялікай імпрэзай і было адзначаньне ўгодкаў Незалежнасьці Беларусі,якія сёлета супольна і ўрачыста сьвяткаваліся беларусамі Нью Ёрку і ваколіцамі.

І гэтую вялікую ўрачыстасьць -Сьвята Незалежнасьці,што зьяўляецца сымбалям нашага жыцьця ,ды пастрахам для акупантаў нашае краіны, у гэтым годзе,гэтую вялікую ўрачыстасьць ня толькі байкатаваў,але і намагаўся сарваць і то ніхто іншы як сучасны няпраўны старшыня Галоўнае Ўправы БАЗА,які за ўсялякую цану,сіліцца быць на чале арганізацыі ў Амэрыцы, прыменяючы ўсе фальшывыя мэтады , а таму на зьмешчаны ім у "Беларус" артыкул адказваю - Адумайся чалавеча.

Аб прычынах чаму старшыня Галоўнае Ўправы Др. Ст. Станкевіч збайкатаваў у гэтым годзе імпрэзу "Угодкаў Незалежнасьці",мы ўжо пісалі ў папярэдніх нумарах "Уздыму",а таму дакладна кожнаму чытачу ведамы,і ведама тое,што ён калі напачатку прымаў удзел у нарадзе Сьвяткавальнага Камітэту,то толькі з мэтаю каб рэпрэзэнтаваць сам сябе,а не агульна беларускую справу,а калі адчуў супрацію,то катэгарычна заявіў,што "удзелу ў сьвяткаваньні не возьме" і гэтага по насьцю датрымаў.А бяз яго сьвяткаваньне адбылося знамяніта.Прысутнічала каля 700 асобаў.Канцэрт быў на высокім узроўні.Было шмат прадстаўнікоў ад паняволеных народаў і высокіх урадавых чыннікаў, прынята рэзалюцыя-пратэст супроць паняволеньня Беларусі маскоўскімі камуністамі.Гэтая рэзалюцыя была перасланая рэдактару Ст.Станкевічу для зьмяшчэньня ў "Беларус",якое аднак рэдактар ня лічыў патрэбным зьмясьціць каб праз гэта падаць да ведама шырэйшым колам грамадзянства ў Амэрыцы,у тым часе як рэзалюцыя нават была зьмешчана ў "Конгрэшэнал Рэкорд",а рэдактар Ст. Станкевіч палічыў гэта шкодным і не зьмясьціў. Дык ціж ня варта адумацца чалавеча?.

А ад кагож пачаўся байкот? Хто яго распачаў? У артыкуле вашым напісана:."нацыянальнай маніфэстацыяй была шостая сустрэча Беларусаў у Нью Брансвіку".А сьвяткаваньне Дня Абвешчаньня Незалежнасьці Беларусі для Вас ня было нацыянальным і Вы гэты Сьвяты Ідэал збайкатавалі бо не лічылі сваім абавязкам нават быць прысутным - як старшыня арганізацыі Вы не лічылі сваім абавязкам нават быць разам з сябрамі тае арганізацыі?

А прыпомніце адзначаньне ўгодкаў абвешчаньня Мабілізацыі Беларускае Краёвае Абароны і дня Вэтэранаў,што мела месца на селішчы "Менск" 4 і 5 ліпеня 1964году. Былыя ўдзельнікі збройнае барацьбы якім Бог дазволіў застацца жывымі,зьехаліся каб ушанаваць гэтую

важную гістарычную падзею ды аддаць пашану палеглым сябром,дык і тут др. Ст Станкевіч ня толькі сам не зьявіўся на гэтую нацыянальную маніфэстацыю,гэтым самым байкатуючы яе,але,як рэдактар "Беларуса" ні зьмясьціў ані слова,бо відаць гэта справа для яго не зьяўляецца нацыянальна-беларускаю і мэта ягоных дзяньняў для беларускае справы шкодная. Дык Адумайся чалавеча!

А таму бяручы пад ўвагу яшчэ шматлікія іншыя факты з няспрыяльнэй для Беларусі ягонай дзейнасьці,зусім ёсьць зразумелым,чаму сябры Рэдакцыйнай Калегіі "Беларуса" адмовіліся далей зь ім супрацоўнічаць і з Рэдакцыйнай Калегіі выступілі.

На мейсцы тыт будзе зазначыць і тое, што яшчэ за год перад дзесятым Кангрэсам БАЗА,было ведама,што др.Ст.Станкевіч спэцыяльна з Мюнхэну быў прызначаны ў Амэрыку каб захапіць у свае рукі беларуска-амэрыканскую арганізацыю БАЗА і іншыя арганізацыі і падыктарарскі кіраваць усімі грамадзкім і палітычнымі справамі беларусаў у Амэрыцы. Невялікая група аднадумцаў, пакладала на ягоную місыю вялікую надзеі. Аднак іхнія надзеі не споўніліся,бо заміж наладзіць арганізацыйнае беларускае жыцьцё,др. Ст. Станкевіч спрычыніўся да новага падзелу ў арганізацыях і вытварыў вялікі балаган.

Сьлядкуючы на працягу паўтара году за дзейнасьцю г.званага Старшыні Галоўнае Управы БАЗА цісьнецца на вусны пытаньне; ці не ляпей і карысьней былоб,каб гэты доктар выкарыстаў свае навуковыя здольнасьці не гучным разьбівальным мэтадам і дэзарганізацыяю таго, што было зроблена да яго прыезду, а працаваў у той галіне,дзе могбы прынесьці не шкоду,а карысьць для беларускага вызвольнага руху.

Для грамадзкае дзейнасьці неабходна мець здольнасьць сужыцьця з людзьмі і талерантнасьць да іх.Нястачаж талерантнасьці,невыкарыстаньне дадзеных абяцанак і прыводзіць да развалу арганізацыі ды паўстаньне заўзятых спрэчак,што і сталася ў арганізацыі БАЗА ў Амэрыцы ў сувязі з нетахтоўнасьцю д-ра Ст. Станкевіча,які будучы ў Клівленд нават прырок,што вярнуўшыся ў Нью Ёрк падасца да дымісыі з старшынства Галоўнае ўправы,аднак гэтага не выканаў.

Не самалюбствам-жа і дыктатарскімі мэтадамі павінны кіравацца грамадзкія і палітычныя кіраўнікі,а галоўнаю залётаю іхняю павінна быць сумленнасьць і здольнасьць знайсьці супольную мову з людзьмі. І гэтага вымагае будучыня нашага народу ад нас ды ад падрастаючага пакаленьня, а каб гэта збылося то павінна адпасьці патрэба праводзіць разбівальную арганізацыйную дзейнасьць ,ды пісаць артыкулы падобныя "адумайцеся людзі",прыпісваючы некаму чужыя нашэпты,бо форма гэткага змаганьня з іначай думаючымі людзьмі зусім ня мая асноў нацыянальнага змаганьня і вынікі яго вельмі сумныя,бо разьмінаюцца з праўдаю. ДЫК ВАРТА НАД ГЭТЫМ ЗАДУМАЦЦА ЧАЛАВЕЧА!

В.А.

---

## Пытаньне і адказ у справе натуралізацыі

ПЫТАНЬНЕ: Ці можна жыць за граніцаю і не траціць амэрыканскага грамадзянства? Я быў натуралізаваны як амэрыканскі грамадзянін перад дваццацьцю гадамі і з таго часу без выезда жыў у Злучаных Штатах. Цяпер пайшоў на пэнсыю.Для мяне былоб лягчэй жыць у тым краю,дзе можна таней пражыць,але я не хачу страціць маё амэрыканскае грамадзянства,жывучы пастаянна за граніцаю.Што я магу зрабіць у гэтай справе?

АДКАЗ: 18 траўня 1964 г. Найвышэйшы Суд ЗША у сваёй надзвычайна важ-

най пастанове сцьвердзіў,што на аснове права натуралізаваны грамадзянін,каторы вярнуўся ў край свайго нараджаньня,губляе сваё амэрыканскае грамадзянства,калі ён пражыве там на працягу трох гадоў.У выніку гэтае пастановы вы можаце вярнуцца на папярэднюю радзіму,калі вам гэта неабходна,без загрозы страты амэрыканскага грамадзянства.

Падобна гэтаму ў пункту права яшчэ гаворыцца,што натуралізаваны грамадзянін губляе сваё амэрыканскае грамадзянства,калі ён жыве за граніцаю ў краю яго нараджаньня,або ў якім колечы іншым краю без зьмены месца жыхарства больш пяці гадоў. Найвышэйшы суд непасрэдна не разглядаў гэтага пункту,але магчыма ў даным выпадку дастасоўваецца той самы прынцып,і дапушчальна,што гэты пункт будзе зьменены.У сучаснасьці аднак неабходна лічыць,што гэты папярэдні пункт закона яшчэ трэба лічыць рэчаістным.

Але для натуралізаваных грамадзянаў,пражыўшых ў Амэрыцы ня менш 15 гадоў пасьля натуралізацыі,гэты пункт закона не датычыцца,нават тады,калі ён яшчэ рэчаісты./Згодна Амэрыкан Консіл Прэсс Рэлеасэс/

## НОВЫЯ ВЫДАНЬНІ

"На берагох пад сонцам"-Уладзімера Глыбіннага.
Кніжка цікавая,напісана жывою літаратурнаю бел. мовою.Зьмяшчае многа патрыятычных апавяданбняў. Ніжэй падаём заклік выдаўца да беларускага грамадзянства.

Дарагія Суродзічы!

Вы ведаеце,у якім становішчы апынуліся беларускія пісьменнікі за мяжой.Здабыўшы поўную свабоду творчасьці,магчымасьць тварыць без агляд кі на камісара,прыстаўленага партыяй да літаратуры,пісьменьнікі-эмігранты разам з тым пазбыліся матарыяльных магчымасьцяў друкаваць свае творы.Наша беларуская эміграцыя,расьцярушаная ў сьвеце,ня ў стане забясьпечыць існаваньня беларускіх выдавецтваў,ня кажучы ўжо пр якое-колечы забясьпечаньне матарыяльнае ці ўзнагароду ў выглядзе ганарараў за творы. Удзень цяжка працуючы,часьцей фізычна, пісьменніку прыходзіцца адрываць ад свайго адпачынку і сну доўгія гадзіны ўначы,каб нешта стварыць на сваёй мове і тым не даць памерці на чужыне роднаму прыгожаму слову.

Праўда,не заўсёды яно бывае адціснутае на друкарскім станку,каб дайсьці да суродзіча.Колькі прападае невядомых твораў і марнее талентаў. Тым больш мы павінны падтрымаць тых тварцоў,якія адважыліся ахвяраваць на родную кнігу ні толькі свой талент,працу сэрца і галавы, але не пашкадавалі выдаткаваць на друк беларускае кнігі сваіх працоўных зьберажэньняў.Дзеля дабра свайму народу і росквіту роднае культуры,яны аддаюць перавагу духовым патрэбам,часта пазбаўляючы сябе магчымасьці мець собскі дом,зямлю,або іншую ўласнасьць.Задачаю ўсяе беларускае эміграцыі ёсьць падтрымаць гэтыя чыны сваім далярам.Беларускі эмігрант заклікаецца купляць беларускую кнігу,намаўляць кожнага іншага рабіць гэта,каб не даць памерці беларускай справе.

Пасылаючы пры гэтым кагадзе выдадзеную вялікім коштам і высілкамі аўтара кнігу,зборнік апавяданьняў і аповесьцяў"НА БЕРАГОХ ПАД СОНЦАМ",аўтар і выдавец чакаюць ад Вас неадкладнае высылкі ў нішэйпададзены арас кошту кнігі ў памеры 5 даляраў у ЗША і Канадзе,а ў іншых краінах - раўнавартасьць 4 амэрыканскіх даляраў,за якія згары дзякуем. З пашанай выдавец.

Можна замаўляць па адрысу: V. Soduro 29 Mellon Ave Troy, N.Y. 12180

або праз рэдакцыю "Уздыму".

У В А Г А! У В А Г А!

ЯШЧЭ МОЖНА НАБЫЦЬ НЕАБХОДНУЮ Ў КАЖНАЙ БЕЛАРУСКАЙ СЯМЬІ КАРЫСНУЮ КНІЖКУ-ПАДРУЧНІК ДЛЯ ШКОЛАЎ Й САМААДУКЦЫІ "СЬВЯШЧЭННУЮ ГІСТОРЫЮ НОВАГА ЗАПАВЕТУ"

ПЕРАВЫДАНА КНІЖКА Ў АБМЯЖАВАНЫМ НАКЛАДЗЕ,А ТАМУ ЖАДАЮЧЫЯ ПАСЬПЯШАЙЦЕСЯ ЯЕ НАБЫЦЬ. ЦАНА 2 ДАЛЯРЫ 50 ЦЭНТАЎ.У АНГЛІІ 15 ШЫЛІНГАЎ,А Ў ІНШЫХ КРАІНАХ-РАЎНАВАРТАСЬЦЬ 2.50 АМЭРЫКАНСКІХ ДАЛЯРАЎ.

ЗАМОЎЛЕНЬНІ І ГРОШЫ СЛАЦЬ НА АДРЫС: Very Rev. A. Kryt
3517 W.25th St.,Cleveland O
Ohio.U.S.A.

П А Д З Я К А

ГЭТЫМ СКЛАДАЮ ШЧЫРУЮ ПАДЗЯКУ СЯМЬІ БРУШКЕВІЧАЎ У ЧЫКАГО,ЯКАЯ БЕЗІНТЭРАСОЎНА ПАМАГЛА МНЕ Ў МАІМ НЯШЧАСЬЦІ.

ШЧЫРАЕ БЕЛАРУСКАЕ ДЗЯКУЙ - -- А.А. А С І П Ч Ы К

АБ ШОСТАЙ "СУСТРЭЧЫ" БЕЛАРУСАЎ У НЬЮ БРАНСВІКУ

У 90-тым нумары "Беларуса" рэдактар гэтае-ж газэты д-р Станіслаў Станкевіч,так размаляваў сваю"сустрэчу",бо ён-жа яе ладзіў як "саршыня" Галоўнае Ўправы БАЗА,і аўтэнтычна падакторску заявіў,што такое сустрэчы яшчэ ня было. Як кажуць людзі,калі ніхто цябе не хваліць дык хвалі сам сябе. Але,што праўда,то праўда,такое яшчэ "сустрэчы" ня было. Калі параўняць,што пісаў той самы Ст. Станкевіч аб чацьвёртай сустрэчы, якая адбывалася ў Кліўлендзе ў 1960 годзе, з тым,што ён напісаў пра сваю шостую "сустрэчу",што адбылася ў Нью Брансьвіку ў 1964 годзе,дык кажны пабачыць,што доктар мая як кароткія валасы,так і кароткую памяць.

У папярэднім нумарох "Беларуса" і ў спэцыяльнай лятучцы,распаўсюджанай напярэдадні "сустрэчы",гучна доктар заяўляў,што на гэтай сустрэчы будуць прамаўляць некалькі Сэнатараў і Кангрэсмэнаў, аднак хаця гэты год ёсьць выбарчым,нікагусенькі ня было,за выняткам мэра гораду Нью Брансьвіку,which з абавязку выканаў свой грамадскі доўг.

Цяпер зьвернем увагу толькі на некаторыя аспекты гэтае "сустрэчы" і параўняем іх з сапраўднасьцю.

У газэце напісана,што на "сустрэчы" было каля 500 асобаў.Выглядае,што доктар ня ўмеў палічыць,або ў вачох ягоных лік прысутных патроіўся і гэтае апошняе ёсьць больш праўдападобным,бо такія рэчы

ў яго на парадку дзенным,а асабліва калі ён,як кажуць пахмеліцца.

Галоўнымі прысутнымі пэрсонамі былі: сам д-р.Ст.Станкевіч,д-р Б.Рагуля, сп. Акула ды ведамы бел. працаўнік д-р Жук.Спадара В. Лукашэвіч да пэрсаналу чамусьці не залічаны,але толькі да "прамоўцаў".Аўтар і арганізатар"сустрэчы" не палічыў патрэбным успомніць сп. С. Гутырчыка,старшыню мясцовага аддзелу БАЗА,які найбольш прылажыўся ў арнанізацыі гэтае "сустрэчы" і найбольш пацярпеў паклёпаў ад самога "старшыні"Галоўнае Ўправы. Відаць дзеля таго,што яшчэ ня мае ніякага тытулу.

Што да танцавальных ігрышчаў,дык д-р Станкевіч меў слушнасьць, згодна М. Козыра,"што лепш было даць яму нагоду прачытаць чытаньь скажам пра ягоныя вакацыі ў Мэіні, чымся старым людзям таўчыся сярод падпітай "цямнаты",бо з моладзі была толькі прысутная адна дзяўчына - Аня Стома.

Галоўнае месца ў справаздачы з"сустрэчы" займае фотаздымак на першай бачыне "Беларуса",на якой мы бачым двух дактароў і аднаго ўкраінца-госьця,а дзе больш людзі?Напэўнаж іх было больш?

Калі мы пабачым фотаздымкі з Трэцяе Сустрэчы/гл."Бацькаўшчыну №425 з I2 .X.I958 г. і фота з Чацьвёртае Сустрэчы /Бацькаўшчына № 524-525 з I6 .X.I960 г. то бачым,што там былі людзі-грамада,а на гэтай толькі два "лідары".Гэта яўны культ асобы ў непрэдрашэнскім гурточку.

Самым важным,згодна справаздачы было выступленьне д-ра Ст.Станкевіча, "аб узмоцненай бальшавіцкай нерасейска-камуністычнай кампаніі супроць беларускае эміграцыі,узнятай у апошні час але ані слова, быццамбы яна раней не існавала,а то дзеля таго каб скампраматаваць у вачох беларускага народу на Бацькаўшчыне ды ў вачох вольнага сьвету, гэтым самым яны ўсіляюць дывэрсыйную акцыю супроць беларускага арганізаванага жыцьця.А,таму,падчыркнуў прамоўца,наша эміграцыя павінна вельмі ўважна сачыць за замаскаванай дзейнасьцяй бальшавіцкае агентуры ў ейных радох ды даваць ёй належны адбой."

Гэта залатыя словы,аабліва трэба зьвярнуць увагу на"замаскаваную дзейнасьць"ня толькі бальшавіцкую,але і на расейска-камуністычную дывэрсыю,якая напэўна ня будзе праводзіцца адкрыта,ані ад імя бальшавікоў,ані камуністаў.Яна будзе праводзіцца ад імя"нявіннай", "карыснай"беларускаму руху ўстановы,зь нявіннай інтэрпрэтацыяй ідэалёгіі,арганізацыі добра замаскаванай,праз аднаго або двух агентаў, каторыя займаюць высокія становішчы ў беларуск-грамадзка-палітычным жыцьці,каторыя здабылі аўтарытэт сярод бел. грамадзянства.Гэтыя агенты будуць выдаваць сябе за беларускіх патрыётаў/нацыяналістаў, знаўцаў палітыкі і непамыльнасьці ў кіраваньні незадежніцкімі імкненьнямі бел. народу.

Нам трэба не забывацца,што ня толькі бальшавікі і камуністы зацікаўленыя ў разьбіцці беларускага вызвольнага руху,але ня менш зацікаўленыя расейскія адзінанедзялімцы,ды іншыя прэтэндэнты на Беларускія землі.

На словы д-ра Станкевіча трэба зьвярнуць асаблівую ўвагу,бо як кажуць,калі злодзей уцякае то крычыць,лавеце злодзея,каб змыліць людзей,бо ніхто іншы як сам ён праводзіць шкодную працу для беларускага грамадзянства,маючы за заданьне,калі не перашкодзіць зьдзейсьненьню ідэі 25 Сакавіка,дык прынамсі адцягнуць на неадзначаны час адбудову вольнае і незалежнае Беларускае Народнае Рэспублікі.

Б.Лаўскі.

## Аб нарадах

У тым-жа нумары "Беларуса" напісана даволі шырака аб нарадах,

якія адбыліся 7 чэрвеня ў Нью Брансьвік.Але нажаль нічога не ўспомнена аб дэталях нарадаў,а толькі ў кароткіх словах гаворыцца:"было зроблена шмат спасьцярогаў,выказана шмат цікавых думак,высуната шмат разумных праектаў...асуджана авантурыстых..." і гэта ўсё.

Дзеля гэтага неабходнасьць змушае падаць тут да ведама,чаму радактар,а ён жа і "старшыня Галоўнае Управы БАЗА,пасароміўся апублікаваць сапраўднасьць,што дзеялася на "сустрэчы" у Нью Брансьвік? А нам ведама,што адзін з удзельнікаў "сустрэчы",чалавек паважнага веку,з высокаю асьветаю,запрапанаваў каб г.называны старшыня Галоўнае Управы для дабра беларускае справы падаўся да дымісыі,бо выбар ягоны на становішча старшыні пярэчыць арганізацыйнаму статуту і далей выклікае вострыя пратэсты ўва ўсіх аддзелах арганізацыі.На гэта Старшыня" адказаў коратка:" не падамся"! І тут амаль што не надыйшло да скандалу,бо ўдзельнік нарады, які без права голасу галасаваў на Дзесятым Кангрэсе,хацеў распачаць бойку з прапануючым.

У другім выпадку,старэйшы спадар з Кліўленду,прысутны на нарадзе зрабіў закід рэдактару чаму не друкуе ў "Беларусе" матарыялаў нацыянальнага зьместу і што магчыма яму не падабаюцца асобы,якія прысылаюць матарыял? Атрымаў адказ злосны "я буду рабіць тое,што мне падабаецца"!-Дык ці варта ў будучыне выпісваць вашую газэту-адказаў Кліўляндзец!.

У тым-жа артыкуле аб нарадах гаворыцца: "удзельнікі асудзілі тых, што гэтыя закалоты выклікаюць,ды прызналі дзейнасьць Галоўнае Управы БАЗА правільнай,плённай і карыснай". Вельмі мудрыя і правідловыя словы,але пытаньне хто гэты закалоты выклікаў і выклікае? Чаму іх ня было пакуль не зьявіўся ў Амэрыку "місьянер"закалотаў д-р.Ст. Станкевіч? А што з беларусаў у Амэрыцы прызнае вашую разбівальную працу правільнай? Ніхто.Апрача Вас самых і пару дапамагатых,бо сапраўды выглядалаб сьмешным і ненармальным зьявішчам прызнаць разьбівальн. дзейнасьць карыснаю,правільнаю і плённаю...

А існуе адна мудрасьць на сьвеце.Дзея таго каб судзіць іншых мрэба перадусім самому мець чыстае сумленьне,а навялікі жаль рэдактар і старшыня згодна свае дзейнасьці ў ніякім выпадку ня зможа выказацца посьвяткаю аб нявіннасьці ў гэтым.

Дык вось што адбывалася на нарадзе ў Нью Брансьвік 7 верасьня на гэтак званай "сустрэчы".

Удзельнік нарадаў.

Аколькі было ўдзельнікаў "сустрэчы

...У сустрэчы прыняло ўдзел каля 500 асобаў.Зразумела найбольш было людзей із самога Нью Брансьвіку й Саўт Рывэру,дзе сустрэча адбывалася.На другім месцы паводле колькасьці былі нашыя суродзічы з Канада. Гэтак падае рэдактар ў тым-жа № 90 "Беларкса",а ў "Бацькаўшчыне" № II-I2 В.Ж з Канады падае,што"былі прадстаўнікі з ўсіх ведамых асяродкаў"

Тут трэба аддаць слова праўдзе. З Дэтройт,дзе налічваецца некалькі соткаў беларусаў,на сустрэчы была адна /даслоўна адна/асоба,з Кліўленду-буйнага бел. асяродку было толькі 8 асоб у тым ліку а аднае сямьі 3 асобы,з другое дзьве, са штату Кннэктыкат -адна сямья,бацькі і чацьвёра дзяцей.Гэтулькі сама было із штатаў:"асачусэмс,Пэнсыльвэнія,Дэлявэр,Марыленд па дзьве тры асобы. Зусім ня было на сустрэчы нават прадстаўнікоў з гэткіх вялікіх асяродкаў як Чкаго,Рокфорд, штату Іллынойс і Вынінэг-Канада.Таму пададзены лік 500 асобаў зусім не адказ вае праўдзе.Навочныя сьветкі згодна сцьверджаюць,што лік удзельнікаў на сустрэчы не перавышаў 250- 280 асобаў ўключаючы і дзяцей.Але відаць рэдактару падвойваць лічбы не навіна,а таму і ў дадзеным выпадку ён тых самых удзельнікаў палічыў два разы,адзін раз

у першым дні сустрэчы ў сыботу,а другі раз у Нядзелю,што і дало круглік 500 асобаў. А таму на прышласьць арганізатары розных імпрэзаў павіінны мець навуку і не рабіць груповых зьездаў,бо беларускае грамадскасьць не падтрымае ніколі тых арганізатараў да якіх ня мая даверу, як гэта сталася ў сёлятны сустрэчы ў Нью Брансьвік,але заўсёды возьме лічны ўдзел у кожнай імпрэзе калі яе будуць ладзіць згодна і супольна,тады і рэзалюцыі будуць мець большае значаньне.

Канадыйскі ўдзельнік сустрэчы.

## Х Р О Н І К А

Беларкская школа ў Нью Ёрку. Школа пачала заняткі 3-га кастрычніка 1964 г.Заняткі адбываюцца ў Беларускім Грамадзкім Цэнтры 401 Атлянтык Авэ.Бруклін.Школа зьяўляецца незалежнай установай.Да гэтага часу школа была пад аховай Акругоўвае Ўправы БАЗА.Цяпер,калі БАЗА ў Нью Ёрку падзялілася ,школай апякуюцца бацькі дзяцей.

ВАЖНЫ ДАКУМАНТ.Стараньнем Акругоўвае Ўправы БАЗА/не Набагэзавай/ і Беларускім Кангрэсовым К-там,выданы асобным выданьнем вытрымкі з "Конгрэшіональ Рэкорд"прамовы Сэнатараў і Рэпрэзэнтантаў у Амэрыканскім Кангрэсе з нагоды 46-тых угодкаў абвешчаньня незалежнасьці БНРэспублікі.

У выданьні зьмешчана 24 прамовы Кангрэмэнаў і 4 прамовы Сэнатараў ды малітвы за Беларусь і Амэрыку Высокапрэасьвяшчэннага Архіепіскапа Васілія БАПЦ у Сэнаце, і протапрасьвіцера Лапіцкага ў Палаце Рэпрэзэнтантаў.Акрамя гэтага зьмешчана рэзалюцыя прынятая на Акадэміі 22 Сакавіка 1964 г. у Нью Ёрку з нагоды 46-ых угодкаў незалежнасьці Беларусі,якую рэдактар "Беларуса" адмовіўся зьмясьціць,бо згодна ягонага пагляду яна была анты-непрэрашэнскай.

## ДАЖЫНКОВАЯ ВЕЧАРЫНА.

У сыботу 17 кастрычніка 1964 году у Беларускім Грамадзкім Цэнтры была ладжана дажынковая вечарына. Арганізавала яе Акругоўвае Ўправа БАЗА. Бяручы пад увагу,што сябры непрэдрэшэнсаке вуніі́нае "БАЗА" старшынёю якое зьяўляецца др. Набагэз,байкатавалі гэтую імпрэзу,колькасьць прысутных была значна большая чымся на падобных раней ладжаных імпрэзах.

Праграма імпрэзы-вечарыны распачалася выступленьнем жаночага ансамблю пад кіраўніцтвам сп. А. Каптуровіча. Ансамбль выканаў некалькі народных і дажынковых песьняў. Танцавальны гурток Беларускае Моладзі задэманстраваў тры народныя танцы ў перамешку з салёвымі песьнямі ў выкананьні сп. К. Жыгаловіча.

Перад пачаткам праграмы сп. Мерляк зрабіў кароткі даклад аб дажынковых звычаях на Беларусі і праводзіў праграму імпрэзы.
Па заканчэньні праграмы распачаліся вясёлыя танцы.Грала музыка Я.Жыдовіча.
Належыцца шчырая падзяка ўсім тым,што спрычыніліся да зарганізаваньня гэтак удачнае імпрэзы,якая прынесла ў касу Акругоўвае Ўправы,паважную грашовую суму.

У В А Г А! У В А Г А !

ЯШЧЭ РАЗ ПРЫПАМІНАЕМ ПАВАЖАНЫМ ЧЫТАЧОМ "У З Д Ы М У" ,ШТО ВЫСЫЛКА ГАЗЭТЫ БУДЗЕ ЎСТРЫМАНА ЎСІМ ТЫМ, ХТО НЕ НАДАСЛАЎ ПЕРАДПЛАТЫ.

Рэдакцыя.

W E S T E R N   U N I O N

TELEGRAM

LL280 614P EST OCT 25 64 SNA783

SY WA 185 DL PD FAX WASHINGTON DC 25 551P EDT

CONSTANT MIERLAK

197 ROEBLING ST BROOKLYN NY

AS WE ENTER LIBERTY WEEK, OCTOBER 25-31, I WANT YOU - AS A LEADER IN THE BYELORUSSIAN - AMERICAN COMMUNITY - TO KNOW THAT I FULLY SUPPORT THE REPUBLICAN PARTY PLATFORM OF 1964 ON THE LIBERATION OF AL CAPTIVE NATIONS. AS PRESIDENT I WOULD SEE THAT THE ISSUES OF BYELORUSSIA INDEPENDENCE AND SELF-DETERMINATION WILL BE RAISED IN THE UNITED NATIONS. I WOULD URGE THE ESTABLISHMENT OF A BYELORUSSIAN DESK IN THE VOICE OF AMERICA AS A STEP TOWARD THE ESTABLISHMENT OF A MORE GENUINE REPRESENTATION OF BYELORUSSIA IN THE U.N. I SHALL USE EVERY PEACFUL MEANS -ECONOMIC,DIPLOMATIC, PERSUASIVE, MORAL - TO ADVANCE THE FREEDOM OF THE PEOPLE OF BYELORUSSIA.WE,WHO ARE COMMITTED TO LIBERTY ABROAD AS WELL AS AT HOME,MUST WORK TOGETHER TO ACHIEVE OUR COMMON OBJEKTIVES. WE CAN BEGIN NOW DURING OUR OBSERVANCES OF LIBERTY WEEK AND, GOD WILLING, CONTINUE FOLLOWING THE NOVEMBER ELECTIONS UNTIL ALL PEOPLES ONCE AGAIN ARE FREE

BARRY GOLDWATER

(10).

Кліўленд:

У днях 22 - 23-га жнівеня Высокапрэасьвяшчэнейшы Уладыка Васіль наведаў праваслаўную парафію ў Ракфордзе, куды быў запрошаны з нагоды парафіяльнага сьвята. Таксама на гэтую урачыстасьць быў запрошаны хор з Кліўленду пад ведамым дэрыгэнцтвам сп.К.Кіслага. Маючы ўжо знаёмс - тва хор сабраўся амаль у поўным складзе ды прыгожым сьпевам яшчэ больш зрабіў малітаўны настрой на багаслужбах ды стаў ведамы і ў Ракфордзе. У суботу увечары Уладыка адправіў вячэрню, а ў нядзелю у асыце айцоў Александра Крыта, Пракопа Марціновіча, Івана Крэсьценюка і дзіякана Янкі Валюкевіча адслужыў сьв.Літругію з крэсным ходам. Пасьля Багаслужбы парафіяльная Рада прыгатавала абед, які, неспадзявана, наведала так шмат людзей, што бракавала месца. Банкетам кіраваў скарбнік мясцовае парафіі сп.Міхась Шыкалюк. Прамаўлялі на банкеце,акрамя настаяцеля Івана, а.Александар, а.Пракоп, гэнр.М.Дзямідаў, сп.А.Асіпчык ды на заканчэньне забраў слова Высокапрэасьвяшчэнейшы Уладыка Васіль. Так міла і прыемна прайшоў час з нашымі братамі ў Ракфордзе,што цяжка было пакідаць і адяжджаць у далёкую дарогу Кліўленд. Ракфорд запэўніў, што напэўна наведае Кліўленд.

У нядзелю, 30-га жнівеня, Беларуска-Амэрыканскае Жаночае Згуртаваньне мела свой гадавы перавыбарчы сход. Жаночае Згуртаваньне ў Кліўлендзе - гэта сэрца калёніі. Ніхто нічога яшчэ не зрабі, каб іхная працавітая і старанная рука не прылажылася. Апошняга справаздачнага году зноў купілі дзьве іконы для БАПЦарквы /усяго разам імі ахвяравана 6 іконаў на іканастас і шмат іншых рэчаў/. У новы Камітэт былі выбраныя наступныя сп-ні: Клаўдзя Каляда - старшыня, Ева Дунец - заступніца, Люда Каляда - сакратарка, Гэля Радзюк - скарбніца, Валя Ягаўдзік і Вэроніка Мельнік - сяброўкі. У Рэвізыйную Камісію увайшлі: Тацяна Кананчук, Ядзя Раковіч і Каця Валюкевіч.

13-га верасьня парафіяльная Рада БАПЦарквы ў Кліўлендзе ладзіла пікнік. Усё было удала сарганізавана і задаволена ўсіх. Царкоўная Рада цяпер зьбірае сьродкі на сплату новапамалёванага іканастасу, які выглядае вельмі прыгожа.

24-га жнівеня арганізацыя "Нэйшэнэлітыс Сэрвіс Цэнтэр" склікала мітынг этнічных групаў у справе міжнароднай выставы. На мітынгу пра - маўляў маёр гораду. Ён заклікаў, каб выучалі мову і захоўвалі культуру краю паходжаньня. Варта заўважыць, што цяперашні маёр Кліўленду сам прыехаў у Амэрыку малым хлапцом і адносіцца да этнічных групаў вельмі прыхільна. Ад Беларусаў прыймалі удзел у мітынгу Ул.Дунец і К. Калоша.

Арганізацыя "Нэйшэнэлітыс Сэрвіс Цэнтэр" кожны году ладзіць баль новых грамадзянаў Амэрыкі, дзе выбіраецца найлепшы грамадзянін з натуралізаваных. На такім балю 19-га верасьня было даручэньне нацыянальных сьцягоў у прысутнасьці маёра гораду. Хоць у Абедненых Нацыях наш сьцяг не нацыянальны, аднак пасьля пэўных захадаў Беларусам быў даручаны бел-чырвона-белы сьцяг. Адбіралі і несьлі праз усю салю Валя Гарох і Янка Лукянчык. Сцягі асталіся ў вышэй успомненай арганізацыі для выкарыстоўваньня на розных імпрэзах.

13-га кастрычніка Беларуска-Амэрыканскае Жаночае Згуртаваньне ладзіла БАЗАР. Як заўсёды, Жаночы Камітэт пад удалым старшынствам К. Каляды сарганізаваў базар вельмі ўмела і дахадова ды папоўніў сваю касу.

30-га кастрычніка кангрэсман М.Фіян зрабіў прыняцьцё для прад - стаўнікоў паняволеных народаў. Як ведама, ён зяўляецца вялікі прыхільнік паняволеных народаў і добра арентуецца ў іх праблемах. Беларусаў

НА прыняцьці рэпрэзэнтавалі Старшыня Аддзелу БАЗА Ул.Дунец і сп.К.Калоша. Кангрэсман, між іншым, у сваёй прамове заўважыў, што да таго часу на сьвеце ня будзе міру, пакуль кожны народ, вялікі і малы, ня будзе самастойны і вольны.

Як ужо абяцаў раней, хор з Ракфорду "Палесьсе" наведаў Кліўленд. У сыботу, 31-га кастрычніка, перад 2-ой гадзінай папаўдні, на абыўцар - коўны пляц прыбыў аўтабуз з Ракфорду. Тут ужо кліўлендзцы чакалі на гасьцей, каб забраць на начлег. Усе хутка былі разьмешчаныя, а некаторыя мусілі вярнуцца да дому самі з тым, што сустрэнуцца ўвечары на канцэрт-забаве. Каля восьмай гадзіны увечары распачаўся канцэрт Рак - форду. Хор "Палесьсе" пад удалым кіраўніцтвам Л. Ярошэкас усе рэчы выконаваў надзвычай прыгожа. Асабліва прыемна бачыць добрую харавую дасьціпліну. Некаторыя песьні сьпяваліся самімі дзяўчатамі, або хлапцамі. За прыгожае выкананьне і добры рэпэртуар гледачы не шкадавалі воплескаў ды выклікалі на біс. Пры выкананьні песьні "Я ад вас далёка" не ў аднаго гледача па старым у змаршчынах і маладым твары пацякла сьляза. На заканчэньне канцэрту Старшыня Аддзелу БАЗА Ул.Дунец падзякаваў хору "Палесьсе" за іх прыезд у Кліўленд і пашырэньне беларускае песьні. Наступна прадставіў старшыню хору сп.Сьцяпана Сароку і гра - мадзкага працаўніка сп.Міхася Шыкалюка. Ад імя БАЗА і ад усіх прысутных Галіна Кананчук паднесла букет красак дэрыгэнту хору Л.Ярошэкасу. Пасьля кароткага перапынку распачалася вечарына. Грала аркестра Ул. Літвінкі "Палесьсе" вельмі добра і старанна, што трымала настрой салі. Між танцамі сьпявалі песьні ўсе разам. Вечарына прайшла весела й прыемна ды толькі позная гадзіна прымусіла разыходзіцца. На другі дзень, у нядзелю, а 12:30 папаўдні было наладжана прыняцьцё ў царкоўнай салі. Прамаўлялі падкрэсьліваючы вялікія заслугі хору "Палесьсе" сп.Ул.Ду - нец, сп.К.Кіслы і а.А.Крыт. Пад акардыён Ул.Літвінка гучэлі беларус - кія песьні ды ўзбуджалі да нацыянальнае працы ды абуджалі любоў да свайго роднага. Час хутка ляцеў і аўтабуз паявіўся на адезд у Ракфорд. Сп.К.Кіслы з сваімі харыстамі прасьпявалі песьню "Лапці" і ўсе рушылі на двор. Быў прыгожы цёплы сонечны дзень. Доўга разьвітаваліся з сваімі суродзічамі. Ніхто не хацеў лезьці ў аўтабуз. Пры шчырых разьві - таньнях абяцалі адны другім, што будуць наведваць часьцей, трэба ве - рыць,гэтак і будзе. Слава вам Ракфорд і вялікая падзяка за так прыемныя моманты, што вы далі нам.

1-га лістапада кангрэсман Р.Тафт, сын вялікага сэнатара і унук прэзыдэнта Амэрыкі запрасіў старшыню БАддзелу БАЗА на прыняцьцё, якое ладзіў для прадстаўнікоў нацыянальнасьцяў. Паколькі старшыня быў за - няты з прыездам Ракфорду, быў дэлегаваны сп.К.Калоша, які рэпрэзэнтаваў Беларусаў ды навязаў шмат знаёмства.

x x x x

Прысылайце хроніку зь беларускага жыцьця ў наш часапіс "УЗДЫМ"!